# Голас Радзімы

№ 27 (2065)
7 ліпеня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.

# XIX УСЕСАЮЗНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ КПСС



У час работы XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі

**З 28 чэрвеня па 1 ліпеня ў Маскве, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў, праходзіла XIX Усесаюзная канферэнцыя Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**Ад папярэдняй яе аддзяляюць 47 гадоў. Скліканая па рашэнню ЦК КПСС, XIX Усесаюзная партыйная канферэнцыя сабралася на пераломным этапе перабудовы, каб даць адказ на пытанні, што маюць жыццёва важнае значэнне для партыі і краіны: якія першыя вынікі перабудовы, што трэба зрабіць для ліквідацыі перашкод, якія стаяць на яе шляху, як зрабіць працэс рэвалюцыйнага абнаўлення незваротным.**

**Канферэнцыі папярэднічала плённая і адкрытая дыскусія па Тэзісах ЦК КПСС. У ходзе яе камуністы і беспартыйныя выказалі многа канструктыўных прапаноў і крытычных заўваг, накіраваных на далейшае згуртаванне і кансалідацыю савецкага грамадства, паглыбленне перабудовы.**

**На канферэнцыі з дакладам «Аб ходзе рэалізацыі рашэнняў XXVII з'езда КПСС і задачах па паглыбленню перабудовы» выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.**

**XIX Усесаюзная партыйная канферэнцыя шырока абмеркавала і прыняла маштабныя рашэнні па паглыбленню перабудовы, рэформе палітычнай сістэмы, далейшай дэмакратызацыі партыі і грамадства. Яны маюць вялікае гістарычнае значэнне для лёсаў краіны, з'яўляюцца неад'емнай састаўной часткай перабудовы і адначасова яе магутным паскаральнікам, адкрываюць магчымасць грамадству ўпэўнена ісці па шляху рэвалюцыйнага абнаўлення, умацаваць ролю партыі як палітычнага авангарда.**

**Улічваючы вялікую цікавасць нашых чытачоў да канферэнцыі, мы друкуем даклад М. С. Гарбачова (з некаторымі скарачэннямі).**

# АБ ХОДЗЕ РЭАЛІЗАЦЫІ РАШЭННЯЎ XXVII З'ЕЗДА КПСС І ЗАДАЧАХ ПА ПАГЛЫБЛЕННЮ ПЕРАБУДОВЫ

## *Даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. ГАРБАЧОВА на XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС*

### *28 чэрвеня 1988 года*

Таварышы дэлегаты!

Як паглыбіць і зрабіць незваротнай рэвалюцыйную перабудову, якая па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам партыі разгарнулася ў нашай краіне, — вось карэннае пытанне, якое стаіць перад намі, дэлегатамі XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі.

Пытанне гэта пастаўлена самім жыццём. Яно шырока абмяркоўваецца ў партыі і народзе. І ад таго, наколькі мы дадзім правільны адказ, залежыць, ці ў стане партыя выканаць ролю палітычнага авангарда на новым этапе развіцця савецкага грамадства.

Тры апошнія гады ў нашым жыцці з поўным правам можна назваць паваротнымі. Намаганнямі партыі, працоўных удалося спыніць спаўзанне краіны да крызісу ў эканамічнай, сацыяльнай і духоўнай сферах. Грамадства цяпер лепш ведае і разумее сваё мінулае, цяперашняе і будучае. Палітыка перабудовы, разгорнутая ў канкрэтныя сацыяльна-эканамічныя праграмы, становіцца практычнай справай мільёнаў.

Людзі адчулі ўласную адказнасць, вызваляюцца ад апатыі і адчужанасці. Вецер абнаўлення загартоўвае маральнае здароўе народа. Дэмакратызацыя вызваліла магутны паток думак, эмоцый, ініцыятыў. Усталяванне праўды і публічнасці ачышчае грамадскую атмасферу, акрыляе людзей, разнявольвае свядомасць, стымулюе актыўную дзейнасць.

Гэта, таварышы, яркі, уражальны працэс, да якога прыцягнута ўсё сумленнае, перадавое, што ёсць у нашым народзе. Кансалідуюцца сілы рэвалюцыйнага абнаўлення. Людзі паверылі ў перабудову, яны патрабуюць няўхільна рухацца наперад і толькі наперад.

Высокую свядомасць і арганізаванасць праяўляе рабочы клас. У працэсе імклівага прыходу ў наша жыццё незвычайнага, новага і складанага ён зноў дэманструе свае выдатныя палітычныя і маральныя якасці, праяўляе сапраўды грамадзянскі, дзяржаўны падыход да спраў, працай выражае падтрымку перабудове. Гэта пазіцыя рабочага класа дазваляе партыі ўпэўнена праводзіць рэвалюцыйныя пераўтварэнні.

З вялікай зацікаўленасцю адклікнулася сялянства. З'езд калгаснікаў паказаў, якую магутную перабудоўчую энергію яно мае. Прыхільнікі перабудовы ў сельскай гаспадарцы смела ідуць на новыя формы работы, беручы на ўзбраенне навуку, эфектыўную тэхналогію, праяўляюць гатоўнасць прабаваць, шукаць, нават рызыкаваць дзеля новай справы, з поўнай аддачай і адказнасцю, умела працаваць на сябе і на карысць Айчыны.

Перабудова пацвердзіла вядомае ленінскае палажэнне об абвостранай сацыяльнай чуткасці інтэлігенцыі, яе адчувальнасці да грамадскіх перамен. Яна горача адклікнулася на заклік партыі ў поўнай меры паставіць на службу перабудове інтэлектуальны, духоўны патэнцыял грамадства. Інтэлігенцыя шчыра падтрымала ўрок праўды, дадзены XXVII з'ездам. Партыйныя рашэнні апошніх трох гадоў знайшлі ў яе глыбокае разуменне.

Такім чынам, галоўны палітычны вынік паслякрасавіцкага перыяду — змяненне ўсёй грамадскай атмасферы, пачатая матэрыялізацыя ідэй абнаўлення, нарастаючая падтрымка савецкім народам курсу партыі на перабудову.

Але ці азначае гэта, што ўсюды і поўным ходам адбываюцца зрухі ў лепшы бок, што рэвалюцыйныя пераўтварэнні сталі незваротнымі?

(Працяг на 2-й стар.).

# Працяг даклада М. С. ГАРБАЧОВА

Не, не азначае. Калі мы хочам заставацца на глебе рэальнасці, то павінны прызнаць: гэтага пакуль не адбылося, таварышы. Мы яшчэ не пераадолелі глыбінных прычын тармажэння, не ўсюды падключылі, а ў нечым і не выпрацавалі механізмы абнаўлення. Дзеяздольнасць многіх партыйных арганізацый яшчэ не на ўзроўні задач перабудовы. Патрэбны новыя, якасныя перамены ў нашым развіцці, а гэта патрабуе кардынальных рашэнняў, актыўных і ініцыятыўных дзеянняў.

Перад намі сёння многа складаных пытанняў. Але якое з іх ключавое? ЦК КПСС лічыць, што такім пытаннем з'яўляецца рэформа нашай палітычнай сістэмы.

## САМАКРЫТЫЧНА АЦАНІЦЬ ДАСЯГНУТАЕ

Таварышы! Працэс рэвалюцыйнага абнаўлення ўсё глыбей пранікае ў рашаючую сферу жыцця — эканоміку.

Мы ўзяліся за глыбокую, сапраўды радыкальную па сваіх мэтах і маштабах рэформу сістэмы кіравання народнай гаспадаркай. Значная частка пярвічных звенняў эканомікі асвойвае прынцыпы поўнага гаспадарчага разліку і самафінансавання ў адпаведнасці з Законам аб дзяржаўным прадпрыемстве. Нядаўна прыняты Закон аб кааперацыі ў СССР адкрывае шлях да стварэння буйнога кааператыўнага сектара ў эканоміцы краіны, шырокага прымянення разнастайных форм кааперацыі ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі.

Пачалася парабудова працоўных, унутрывытворчых адносін на аснове падраду і арэнды, якія дазваляюць аб'яднаць перавагі грамадскай уласнасці з асабістым інтарэсам чалавека, яго гаспадарскімі адносінамі да справы, грамадзянскім самасцвярджэннем. Прыметны імпульс дадзены развіццю індывідуальнай працоўнай дзейнасці.

Прыняты рад буйных рашэнняў прынцыповага характару, якія вызначылі напрамкі перабудовы па асноўных галінах народнай гаспадаркі і сацыяльнай сферы, што праводзяцца ў жыццё.

Эканоміка пастурова набірае абароты. У мінулым годзе ўпершыню ўвесь прырост нацынальнага даходу атрыманы за кошт павышэння прадукцыйнасці працы. Аднавіўся рост рэальных даходаў працоўных: за два гады цяперашняй пяцігодкі ў разліку на душу насельніцтва яны павялічыліся на 4,6 працэнта.

У параўнанні з адзінаццатай пяцігодкай штогадовы ўвод жылля стаў большым на 15 мільёнаў квадратных метраў. Мы сур'ёзна ўзяліся за рэалізацыю народнай асветы і аховы здароўя. Павысіліся нараджальнасць і знізілася смяротнасць, што ў немалой ступені звязана з барацьбой супраць п'янства і алкагалізму.

Тэндэнцыя да аздараўлення сацыяльна-эканамічнай абстаноўкі атрымала развіццё і ў гэтым годзе. Нацыянальны даход павялічваецца хутчэй, чым прадугледжвалася планам, пры абсалютным скарачэнні колькасці занятых у матэрыяльнай вытворчасці.

Апераджальнымі тэмпамі расце вытворчасць тавараў народнага спажывання, што дазволіла выканаць пяцімесячнае заданне па аб'ёму тавараабароту. Прадуктаў харчавання і нехарчовых тавараў прададзена на 5,9 працэнта больш, чым за такі ж перыяд мінулага года. Аб'ём бытавых паслуг насельніцтву павялічыўся на 13,5 працэнта.

Паскорылася будаўніцтва жылля і сацыяльна-бытавых аб'ектаў. Кватэр і дамоў пабудавана больш на 6 працэнтаў, агульнаадукацыйных школ — на 22 працэнты, дашкольных устаноў, клубаў і Дамоў культуры — амаль на трэць, бальніц — у два разы.

Усё гэта — рэальны вынік перабудовы. Але мы, таварышы, абавязаны быць самакрытычнымі, ясна бачыць, што пры ўсіх пазітыўных момантах становішча спраў у эканоміцы мяняецца марудна, асабліва калі меркаваць па канчатковаму выніку — узроўню жыцця народа.

Якія прычыны гэтага?

Трэба, таварышы, шчыра сказаць: мы недаацанілі ўсёй глыбіні і цяжару дэфармацый і застою мінулых гадоў. Многага проста не ведалі і толькі цяпер бачым: запушчанасць спраў у розных сферах эканомікі аказалася больш сур'ёзнай, чым уяўлялася спачатку.

Наколькі сур'ёзная сітуацыя, відаць, у прыватнасці, на фінансавым становішчы краіны. На працягу многіх гадоў расходы дзяржаўнага бюджэту раслі хутчэй, чым даходы. Бюджэтны дэфіцыт націскае на рынак, падрывае ўстойлівасць рубля і ўсяго грашовага абарачэння, выклікае інфляцыйныя працэсы.

Думаю ўсё ж, што, гаворачы аб памылках і горкіх уроках мінулага, мы не менш патрабавальна і прынцыпова чым да папярэднікаў, павінны ставіцца да сябе, да [illegible]снага, аналізаваць не толькі поспехі, але і памылкі і ўрокі сваёй дзейнасці на працягу апошніх трох гадоў, памылкі і промахі, зробленыя ў ходзе перабудовы. І з гэтага пункту погляду трэба самакрытычна сказаць: за тры гады мы маглі б зрабіць значна больш чым зрабілі на галоўных напрамках перабудовы, і перш за ўсё па павышэнню эфектыўнасці нашай эканомікі, паляпшэнню яе канчатковых вынікаў.

Бо гэта факт, што і сёння краіна ў разліку на адзінку нацыянальнага даходу працягвае вельмі многа расходаваць паліва, электраэнергіі, металу. Адсюль — дэфіцыт рэсурсаў пры вялікіх аб'ёмах іх вытворчасці, што вымушае выдзяляць усё новыя сродкі для нарошчвання сыравіннай і паліўна-энергетычнай базы.

Каб вырвацца з гэтага заганнага круга, мы пачалі карэнную мадэрнізацыю айчыннага машынабудавання як рашаючай умовы паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу, рэканструкцыі ўсёй нашай народнай гаспадаркі. Гэта, можна сказаць, беспрэцэдэнтная праграма. Яна патрабуе і неардынарных намаганняў. І не толькі ў самім машынабудаванні, але і ў хімічнай прамысловасці, металургіі, іншых галінах і, вядома, у сферы навуковых даследаванняў і распрацовак. Работа тут разгарнулася, але яна яшчэ не адпавядае маштабам пастаўленых задач, вядзецца марудна, асабліва на такіх авангардных напрамках, як мікраэлектроніка, камп'ютэрная тэхніка, стварэнне прагрэсіўных матэрыялаў. Прамую адказнасць за гэта нясуць Бюро Савета Міністраў СССР па машынабудаванню і Дзяржаўны камітэт СССР па навуцы і тэхніцы, кіруючыя кадры галіны. Ды і структурныя зрухі ў эканоміцы ў цэлым адбываюцца марудна. А гэта значыць, што ў ёй захоўваецца большасць праблем, якія накапіліся ў мінулым. Але ж гэта таксама адлюстраванне цяперашніх падыходаў да кіравання эканомікай.

Шырокае развіццё кааперацыі, укараненне гаспадарчага разліку, арэнднага падраду, іншых прагрэсіўных форм арганізацыі і стымулявання працы аб'ектыўна патрабуюць карэнных перамен у кіраванні аграпрамысловым комплексам. Практыка паказала, што ў цяперашнім выглядзе аграпрамысловыя органы ў раёнах і абласцях сябе зжываюць. Відаць, трэба пайсці па шляху, падказаным жыццём, на які па прыкладу тульскіх хлебаробаў ужо сталі многія раёны, вобласці і рэспублікі. Я маю на ўвазе добраахвотнае аб'яднанне калгасаў і саўгасаў для стварэння сумесных службаў і органаў кіравання. Сельскім працаўнікам лепш відаць, якія ім патрэбны формы кіравання і арганізацыі абслугоўвання.

На чэрвеньскім Пленуме ЦК, як вы памятаеце, гаварылася аб неабходнасці спалучаць дасягненне даўгачасных стратэгічных мэт з максімальным задавальненнем жыццёвых патрэб народа. Структурная перабудова, радыкальная эканамічная рэформа — працэсы фундаментальныя. Яны запатрабуюць часу, вялікіх намаганняў і сродкаў. Ажыццяўляючы гэтыя задачы, мы ў той жа час павінны без прамаруджання вырашаць і неадкладныя праблемы павышэння дабрабыту народа.

Як жа вырашаюцца гэтыя задачы?

Пачну з харчовай праблемы, паколькі гэта, бадай, самае балючае месца ў жыцці грамадства, самая вострая праблема.

Пэўныя зрухі тут ёсць. Але яны не могуць нас задаволіць. Па сутнасці, тое павелічэнне прадуктаў харчавання, якога мы дабіліся, у значнай меры пайшло на пакрыццё патрэбнасцей, звязаных з прыростам насельніцтва. А гэта значыць, таварышы, што нам патрэбны іншыя, больш высокія тэмпы нарошчвання харчовых рэсурсаў. У нас няма ні маральнага, ні палітычнага права мірыцца з зацяжным вырашэннем харчовай праблемы.

Узнікае справядлівае пытанне: чаму нам так доўга не ўдаецца рушыць тут наперад? Безумоўна, многія прычыны бяруць свой пачатак у мінулым, калі былі сур'ёзна падарваны асновы развіцця вёскі. Але гэта ніяк не апраўдвае цяперашнія недахопы ў сельскай гаспадарцы.

Здаецца, усе вузлы развязаны, калгасам і саўгасам, раёнам, абласцям, рэспублікам дадзены самыя шырокія правы для павелічэння вытворчасці прадукцыі земляробства і жывёлагадоўлі, а жаданага выніку пакуль няма. Больш таго, многія рашэнні апошняга часу натыкаюцца на неразуменне, прамаруджанне ў іх рэалізацыі, на ўсемагчымыя бюракратычныя перашкоды, а то і проста на нежаданне працаваць па-новаму.

Правамернасць такога вываду пацвярджаюць адрозненні ў выніках дзейнасці многіх рэгіёнаў нават з роўнымі прыродна-эканамічнымі ўмовамі. Дзе энергічна ўзяліся за справу, дзе па-сапраўднаму выкарыстоўваюць новыя магчымасці, там становішча прыметна папраўляецца. Вазьміце Беларусь, Літву, Алтайскі край, Белгародскую, Валгаградскую, Жытомірскую, Ліпецкую, Арлоўскую, Хмяльніцкую, Цаліграградскую вобласці. Тут устойліва расце вытворчасць прадуктаў жывёлагадоўлі, што дазволіла прыметна палепшыць забеспячэнне прадуктамі харчавання.

Але чаму змаглі палепшыць забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання ў Белгародскай вобласці і не зрабілі гэтага ў суседняй Курскай? Чаму працаўнікі сёл Цалінаградскай вобласці павялічылі пастаўкі ў гандаль мяса, малака, агародніны, а ў Паўночна-Казахстанскай і некаторых іншых суседніх абласцях гэтага зрабіць не змаглі?

Падобныя прыклады, таварышы, ёсць, як кажуць, скрозь і ўсюды. Вопыт паказвае, што найкарацейшы і надзейны шлях да дастатку прадуктаў харчавання — шырокае, паўсюднае ўкараненне арэндных і іншых эфектыўных форм арганізацыі і стымулявання працы. Гэта — ключавое звяно сучаснай аграрнай палітыкі.

Вынікі работы арэндных і падрадных калектываў даказалі, што за параўнальна кароткія тэрміны можна хутка павысіць ураджайнасць і прадукцыйнасць жывёлы, істотна павысіць прадукцыйнасць працы, скараціць страты і даць прадукты добрай якасці. Менавіта ў гэтым вопыце, таварышы, і змяшчаецца адказ на галоўнае пытанне: у якія тэрміны краіна вырашыць харчовую праблему. Усё залежыць ад таго, як хутка мы зацікавім людзей і наладзім работу арэндных і падрадных калектываў, як шырока ўключым працаўнікоў вёскі ў гэты працэс, зробім селяніна сапраўдным гаспадаром на зямлі.

Зразумела, разам з гэтым мы павінны працягваць лінію на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскай гаспадаркі і харчовай прамысловасці. Неадкладны характар носяць меры па паляпшэнню транспарціроўкі, захоўвання і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі. Калі мы здолеем своечасова ўбраць, перавезці, захаваць і перапрацаваць ураджай, своечасова даставіць прадукцыю спажыўцу, то ужо пры цяперашнім узроўні прадукцыйнасці палёў і ферм можна на 20—30 працэнтаў павялічыць спажыванне прадуктаў харчавання.

Гэты відавочны рэзерв павінен быць выкарыстаны. Мы выпрацавалі канкрэтную праграму па паляпшэнню перапрацоўкі, захоўвання і транспарціроўкі сельскагаспадарчай прадукцыі і выдзелілі на гэтыя мэты ў апошнія гады дванаццатай і на трынаццатую пяцігодку 77 мільярдаў рублёў. Цяпер трэба будзе ўмела арганізаваць справу, эфектыўна выкарыстаць гэтыя рэсурсы, каб у кароткі тэрмін рашуча выправіць становішча.

І яшчэ аб адной важнай праблеме. Якія б рэсурсы мы ні накіроўвалі ў сельскую гаспадарку, яны не дадуць належнай аддачы, калі не паклапаціцца аб чалавеку, умовах яго працы і быту. Асобна хачу сказаць аб сацыяльным развіцці вёскі. Тут у грамадства ёсць немалы доўг перад сельскім жыхаром. У многіх раёнах жыллёвыя, сацыяльна-культурныя ўмовы, медыцынскае абслугоўванне вёскі знаходзяцца на нізкім узроўні. Да гэтага трэба дадаць нездавальняючае добраўпарадкаванне сельскіх дамоў, цяжкасці з энергазабеспячэннем, выкарыстаннем бытавой тэхнікі, дрэнны стан дарог.

У гэтай пяцігодцы прымаюцца, як ніколі, буйныя меры па паляпшэнню сацыяльнай сферы вёскі. Вялікая праграма пераўтварэнняў ажыццяўляецца, у прыватнасці, і ў такім важнейшым рэгіёне краіны, як Расійскае Нечарназем'е. Працаўнікі вёскі ўжо ў бліжэйшыя гады павінны паўсюдна адчуць рэальнае змяненне ўмоў жыцця і працы. Гэту лінію трэба паслядоўна ажыццяўляць і ў далейшым. Дзяржплану і Дзяржаграпраму СССР трэба зыходзіць з гэтага пры падрыхтоўцы плана на трынаццатую пяцігодку.

Словам, таварышы, сутнасць аграрнай палітыкі на цяперашнім этапе зводзіцца да таго, каб змяніць вытворчыя адносіны ў самой вёсцы. Мы павінны аднавіць эканамічную раўнавагу паміж горадам і вёскай, усямерна раскрыць патэнцыял калгасаў і саўгасаў праз развіццё разнастайных форм падраду і арэнды, пераадолець адчужэнне селяніна ад зямлі, зрабіць яго паўнаўладным гаспадаром, ахаваўшы ад усякага камандавання, кардынальна змяніць умовы жыцця сельскіх працаўнікоў. Толькі на гэтай аснове можна рэзка павысіць эфектыўнасць аграпрамысловай вытворчасці, забяспечыць карэннае паляпшэнне харчовага забеспячэння ў краіне.

Аб жыллёвай праблеме. Мы пачалі вырашэнне выключна важнай задачы — забяспечыць да 2000 года практычна кожную сям'ю асобнай кватэрай або індывідуальным домам. Для гэтага, як вядома, трэба будзе пабудаваць больш як 35 мільёнаў кватэр і дамоў. Хоць абстаноўка ў будаўніцтве жылля стала мяняцца да лепшага, яна застаецца вельмі напружанай, людзі гадамі чакаюць кватэр.

У гэтай сувязі мы пайшлі на неардынарныя рашэнні — істотна павялічылі маштабы будаўніцтва новых дамоў і кватэр за кошт дзяржаўных рэсурсаў, скараціўшы капітальныя ўкладанні на вытворчае будаўніцтва, а таксама сродкаў працоўных калектываў, якія перайшлі на гаспадарчы разлік. Практычныя меры прыняты па развіццю кааператыўнага і індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва. Іх сутнасць у тым, каб пайсці насустрач жаданням людзей абзавесціся кааператыўнай кватэрай або ўласным домам. У гэтых мэтах зняты ўсе забароны і абмежаванні на памеры будынкаў і іх паверхавасць. Няхай людзі на свае працоўныя сродкі ўзводзяць тое, што ім трэба, з улікам іх сённяшніх і будучых патрэбнасцей. Абгрунтаваныя, думаецца, і шматлікія прапановы аб прадастаўленні грамадзянам магчымасці выкупляць у дзяржавы займаемыя імі кватэры з правам перадачы іх у спадчыну.

Прынятыя рашэнні па паскарэнню жыллёвага будаўніцтва выклікалі адабрэнне ў савецкіх людзей. Справа паўсюдна пачала мяняцца да лепшага, але нараджаюцца і новыя праблемы. Не адпавядае ўзрослым патрэбнасцям узровень развіцця базы будаўнічых арганізацый і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. І тут трэба многае зрабіць, выкарыстоўваючы ўсе магчымасці, якія ёсць у абласцях, краях і рэспубліках. Многае залежыць і ад машынабудаўнікоў, якія абавязаны паставіць самую сучасную тэхніку і абсталяванне для будаўнікоў і прадпрыемстваў індустрыі будаўнічых матэрыялаў. Усё гэта трэба вырашаць не адкладваючы, па-дзеласому.

І, нарэшце, аб задавальненні попыту на тавары народнага спажывання, аб развіцці гандлю і сферы паслуг. Змяненні, якія намеціліся тут, не знімаюць галоўнай праблемы — прапанаванне тавараў і паслуг працягвае адставаць ад росту пакупной здольнасці насельніцтва, што ў немалой меры абумоўлена як запушчанасцю гэтай сферы, так і адносінамі да яе.

Многае залежыць ад работы лёгкай прамысловасці. Сёння мы, як гаворыцца, пажынаем плады шматгадовых пагардлівых адносін да развіцця гэтай галіны. На яе

(Працяг на 3-й стар.).

# Працяг даклада М. С. ГАРБАЧОВА

прадпрыемствах выкарыстоўваецца ўстарэлае абсталяванне, многа цяжкай ручной працы. Усё гэта адбіваецца і на прадукцыйнасці, колькасці і якасці прадукцыі стабільнасці кадраў. Цяпер прыняты меры, якія закліканы выправіць тут становішча. Выдзелены буйныя сродкі. Мадэрнізацыя прадпрыемстваў вядзецца з выкарыстаннем як айчыннага, так і імпартнага абсталявання.

Але ёсць і іншыя прычыны. Маруднае нарошчванне вытворчасці тавараў народнага спажывання ў многім тлумачыцца неадладжанасцю нашага эканамічнага механізма, слабымі стымуламі. Большасць прадпрыемстваў саюзных міністэрстваў і ведамстваў, закліканых пастаўляць на рынак тавары працяглага карыстання, лічаць гэту задачу другараднай, спрабуюць пад любым выглядам ухіліцца ад яе вырашэння.

Мы павінны ў кароткія тэрміны стварыць сучасную і магутную індустрыю вытворчасці тавараў народнага спажывання. Гэта датычыць не толькі лёгкай прамысловасці, але і абаронных заводаў, прадпрыемстваў цяжкай індустрыі, уклад якіх у вытворчасць і пастаўкі спажывецкіх тавараў павінен быць рашуча павялічаны. І размова ідзе не толькі аб колькасных, але і аб якасных паказчыках.

Асаблівая адказнасць за забеспячэнне таварамі і паслугамі ляжыць на мясцовых органах. У рэспубліках і абласцях ёсць нямала прыкладаў сапраўднай ініцыятывы і прадпрымальнасці ў справе насычэння рынку таварамі за кошт мясцовых магчымасцей. І ўсё ж у многіх рэгіёнах занадта моцныя ўтрыманскія настроі, спробы выкалаціць фонды нават на тыя тавары, якія цалкам можна вырабляць на месцы. Такая пазіцыя недаравальная цяпер, калі адкрыліся шырокія магчымасці для развіцця кааператыўнай і індывідуальнай працоўнай дзейнасці. Там, дзе своечасова гэта зразумелі і стварылі неабходныя ўмовы, вынікі ў наяўнасці, паяўляюцца новыя тавары і віды паслуг. І гэта можна толькі вітаць.

## ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ МІЖНАРОДНЫХ АДНОСІН

Таварышы! Перабудова ў СССР стала фактарам сусветнага значэння. Кардынальныя перамены ва ўласным доме запатрабавалі новых падыходаў і да міжнародных спраў.

Ацэньваючы савецкую знешнюю палітыку ў пасляваенны перыяд, мы не забываем, што імперыялізм стварыў вакол нас і нашых саюзнікаў фактычна надзвычайную сітуацыю. Заходні ваенны блок на чале з ЗША паводзіў сябе ў адносінах да сацыялізму адкрыта агрэсіўна. Ваенная пагроза стала для нас пастаяннай велічынёй. Не знята яна і да гэтага часу. Савецкі Саюз разам са сваімі саюзнікамі проста не мог на гэта не рэагаваць, гэтак жа, як і на мэтанакіраваную псіхалагічную вайну супраць сацыялістычных краін.

Тым не менш, атрымліваючы ўрокі з мінулага, нельга не прызнаць, што камандна-адміністрацыйныя метады не абышлі і знешнепалітычную сферу. Здаралася, нават важнейшыя рашэнні прымаліся вузкім колам асоб, без калектыўнага, усебаковага разгляду і аналізу, а іншы раз і без належнай парады з сябрамі. Гэта прыводзіла да неадэкватнай рэакцыі на міжнародныя падзеі і палітыку іншых дзяржаў, а то і да памылковых рашэнняў. На жаль, не заўсёды ўзважвалася, што будзе каштаваць народу і да чаго можа прывесці той ці іншы варыянт дзеянняў.

У адказ на кінуты нам і ўсяму сацыялістычнаму свету ядзерны выклік неабходна было дабіцца стратэгічнага парытэту з ЗША. І гэта было зроблена. Але, сканцэнтраваўшы на ваенным аспекце процідзеяння імперыялізму велізарныя сродкі і ўвагу, мы не заўсёды выкарыстоўвалі для забеспячэння бяспекі дзяржавы, для зніжэння напружанасці і ўзаемаразумення паміж народамі палітычныя магчымасці, якія адкрываліся ў сувязі з фундаментальнымі змяненнямі ў свеце. У выніку далі ўцягнуць сябе ў гонку ўзбраенняў, што не магло не адбіцца на сацыяльна-эканамічным развіцці краіны і на яе міжнародным становішчы.

Між тым гонка ўзбраенняў набліжалася да крытычнай адзнакі. На гэтым фоне наша традыцыйная палітычная і грамадская дзейнасць на карысць міру і раззбраення пачала страчваць сваю пераканаўчасць. А калі сказаць больш востра — не пераламаўшы логікі такога развіцця, можна было сапраўды аказацца на грані ваеннай канфрантацыі.

Вось чаму запатрабавалася не проста ўдасканаленне, а рашучае абнаўленне знешняй палітыкі.

Для гэтага трэба было новае палітычнае мысленне. І асновы яго закладзены красавіцкім Пленумам ЦК, XXVII з'ездам партыі. Яны далі філасофскае абгрунтаванне нашай міжнароднай дзейнасці ва ўмовах перабудовы. Новае мысленне — не закрытая і закончаная дактрына. Яно дыялектычнае, што дае магчымасць пастаянна ўдасканальваць і развіваць палітыку ў адпаведнасці з ходам жывога жыцця. І, вядома,— у адпаведнасці з нашым сацыялістычным выбарам, з ленінскімі прынцыпамі.

Гэтак жа, як і ва ўнутраных справах, савецкае кіраўніцтва звярнулася да Леніна, да яго вопыту — усюды, у любых сітуацыях дзейнічаць з пазіцый рэалізму. Толькі такая знешняя палітыка можа эфектыўна служыць перабудове. Толькі ў гэтым выпадку яна можа разлічваць на рэалістычныя адносіны з боку тых, да каго яна звернута. Толькі ў гэтай якасці яна набывае здольнасць дапамагчы выратаванню свету ад пагражаючых бедстваў.

Аналізуючы сучасны свет, мы выразней уявілі сабе, што міжнародныя адносіны, не страчваючы свайго класавага характару, усё больш рэалізуюць сябе як адносіны менавіта паміж народамі. Мы канстатавалі ўзрослую ролю ў сусветных справах народаў, нацый, новых нацыянальных утварэнняў, якія фарміруюцца. А гэта мае на ўвазе, што ў міжнародных справах нельга не лічыцца з разнастайнасцю інтарэсаў. Улік іх з'яўляецца важным элементам новага палітычнага мыслення.

З пазіцый сучаснасці, для якой характэрна нарастанне ядзернай пагрозы, абвастрэнне іншых глабальных праблем, узмацненне інтэрнацыяналізацыі ўсіх працэсаў у свеце — усё больш цэласным і ўзаемазалежным пры ўсёй яго супярэчлівасці,— мы пастараліся больш глыбока асэнсаваць першапачаткова закладзеную ў марксізме ідэю ўзаемасувязі пралетарска-класавага і агульначалавечага інтарэсаў. Гэта прывяло нас да вываду аб прыярытэце агульначалавечых каштоўнасцей у наш век. Тут аснова новага палітычнага мыслення.

У ходзе аналізу фундаментальных змен у свеце перадольваюцца многія стэрэатыпы, якія скоўвалі нашы магчымасці і ў пэўнай меры давалі падставы тым, хто займаўся



скажэннем нашых сапраўдных намераў.

Вялікую ролю адыграў наш выхад на шырокія кантакты з прадстаўнікамі іншых краін — ад кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў да простых грамадзян, з агульнапрызнанымі аўтарытэтамі ў навуцы, культуры, выдатнымі пісьменнікамі, кіраўнікамі і дэлегацыямі палітычных партый, грамадскіх арганізацый і рухаў, з прафсаюзнымі і сацыял-дэмакратычнымі лідэрамі, рэлігійнымі дзеячамі і парламентарыямі.

Такая насычанасць непасрэдных кантактаў як бы нанава «адкрывае» Савецкі Саюз для знешняга свету. А мы са свайго боку атрымалі магчымасць лепш бачыць і разумець навакольны свет, удзельнічаць у абмеркаванні яго праблем і ў пошуках падыходу да іх вырашэння, браць карыснае з ідэй, якія ідуць ад іншых культур і духоўных традыцый, што знайшло, напрыклад, адлюстраванне ў Дэлійскай дэкларацыі 1986 года. З дапамогай гэтай «зваротнай сувязі» лягчэй стала знаходзіць узаемаразуменне і па пытанню аб значэнні такіх каштоўнасцей, як свабода, дэмакратыя.

Усё гэта надало дынамізм савецкай знешняй палітыцы, дазволіла выступіць з цэлым радам буйных ініцыятыў.

Гэта — праграма паэтапнай ліквідацыі ядзернай зброі да 2000 года, сістэма ўсеабдымнай бяспекі, свабоды выбару, баланс інтарэсаў, «агульнаеўрапейскі дом», перабудова адносін у азіяцка-ціхаакіянскім рэгіёне, абаронная дастатковасць і ненаступальная дактрына, зніжэнне ўзроўню ўзбраенняў як шлях да ўмацавання нацыянальнай і рэгіянальнай бяспекі, адкліканне войск і баз з чужых тэрыторый, меры давер'я, міжнародная эканамічная бяспека, ідэя непасрэднага ўключэння аўтарытэту навукі ў сусветную палітыку.

У аснову нашых кантактаў па міждзяржаўнай лініі быў пакладзены дыялог, а ў сферы раззбраення — гатоўнасць да глыбокага ўзаемнага кантролю. Гэта дазволіла расшырыць дыяпазон давер'я далёка за межы прывычнага светапогляднага спектра. І мы выявілі немалы патэнцыял узаемаразумення і гатоўнасці да суіснавання і супрацоўніцтва нават ва ўплывовых колах, ідэалагічна вельмі далёкіх ад нас.

Наша шчырае і адкрытае запрашэнне да сумесных роздумаў і пошукаў сустрэла вялікі водгук у свеце. А публічнасць, перабудова надаюць «матэрыяльную» пераканаўчасць нашым знешнепалітычным ідэям і ініцыятывам.

Такі падыход зрабіў магчымымі такія буйныя прарывы ў сусветнай палітыцы і перш за ўсё ў галіне раззбраення, як Жэнева і Рэйк'явік, якія далі рэальны ход перагаворнаму працэсу і прадвызначылі поспех сустрэч у вярхах у Вашынгтоне і ў Маскве. У выніку мяняецца ўся міжнародная сітуацыя.

У кантэксце новага мыслення было разгледжана становішча ў свеце сацыялізму. Разам з сябрамі мы па-таварыску пастараліся вызваліць інтэрнацыяналісцкую сутнасць нашых адносін ад напластаванняў мінулага. Ажывіліся, сталі дзелавымі і аператыўнымі асабістыя кантакты кіраўнікоў партый і дзяржаў. Удасканальваецца каардынацыя знешняй палітыкі сацыялістычнай садружнасці.

Сусветны сацыялізм перажывае няпросты, пераломны перыяд. Выхад сацыялістычных краін на новыя рубяжы, раскрыццё іх патэнцыялаў у нацыянальных і міжнародных рамках узнімаюць прэстыж і ролю сацыялізму ў сусветным развіцці.

Ключавое месца ў новым мысленні займае канцэпцыя свабоды выбару. Мы перакананы ва універсальнасці гэтага прынцыпу для міжнародных адносін, калі галоўнай, абагульняючай сусветнай праблемай стала само выжыванне цывілізацыі.

Канцэпцыя гэта абумоўлена беспрэцэдэнтнай і растучай разнастайнасцю свету. Мы з'яўляемся сведкамі такога феномена, як актыўнае ўключэнне ў сусветную гісторыю мільярдаў людзей, якія вякамі заставаліся за яе межамі. Гэтыя мільярды выходзяць на сцэну самастойнай гістарычнай творчасці ў зусім новых умовах. І ў абстаноўцы паўсюднага росту нацыянальнай самастойнасці яны яшчэ скажуць сваё слова ў пошуках уласнага выбару шляху.

У гэтай сітуацыі навязванне звонку — любымі сродкамі, не гаворачы ўжо аб ваенных, — сацыяльнага ладу, спосабу жыцця, палітыкі — гэта небяспечныя даспехі ранейшых гадоў. Суверэнітэт і незалежнасць, раўнапраўе і неўмяшанне становяцца агульнапрызнанымі нормамі міжнародных адносін, што само па сабе з'яўляецца буйной заваёвай XX стагоддзя. Супраціўляцца свабодзе выбару — значыць проціпастаўляць сябе аб'ектыўнаму ходу самой гісторыі. Вось чаму палітыка сілы ва ўсіх яе формах і праяўленнях гістарычна зжыла сябе.

Словам, мы глыбока перакананы, што новае мысленне і заснаваная на ім палітыка правільна адлюстравалі наспеўшыя патрэбнасці і імператывы сучаснага свету. Яны адрадзілі надзею, адкрылі шлях да якасных змен у свядомасці чалавецтва.

На галоўнае пытанне, якое больш за ўсё непакоіць савецкіх людзей і па якому яны хочуць пачуць ацэнку вынікаў работы за тры гады, — ці ўдалося аддаліць пагрозу вайны? — мы можам адказаць: так, безумоўна.

У чым гэта праявілася? Перш за ўсё ў тым, што вось міжнароднага жыцця перамяшчаецца ад канфрантацыі да супрацоўніцтва, узаемаразумення, да перагавораў з перспектывай дасягнення канкрэтных вынікаў, у першую чаргу, у адносінах да зброі масавага знішчэння. Палепшыліся савецка-амерыканскія адносіны. Заключаны Дагавор аб ліквідацыі часткі ядзерных узбраенняў. Ажывіўся агульнаеўрапейскі працэс — на міждзяржаўным і, асабліва, — грамадскім узроўні.

Жэнеўскія пагадненні і пачаты вывад нашага воінскага кантынгенту з Афганістана сталі важнай міжнароднай вяхой у справе палітычнага ўрэгулявання рэгіянальных канфліктаў, якія тояць у сабе небяспеку для свету ў цэлым, тармозяць прагрэс народаў.

З трыбуны нашай партыйнай канферэнцыі ад імя партыі і народа дазвольце яшчэ раз выказаць глыбокую ўдзячнасць салдатам і афіцэрам, грамадзянскім спецыялістам — усім, чый лёс закранула і каго абпаліла гэта вайна. Нашы воіны пакідаюць Афганістан па загаду Радзімы, якая праявіла мудрасць, набыўшы за гэтыя гады новы палітычны і маральны вопыт, больш глыбокае разуменне сучаснага свету, яго супярэчнасцей і цяжкасцей на шляху ў будучыню.

У цэлым, таварышы, аналіз ужо існуючых рэальнасцей дазваляе дапусціць: калі гэтыя рэальнасці ўдасца ўмацаваць і развіць, то свет на рубяжы XX—XXI стагоддзяў будуць вызначаць наступныя тэндэнцыі:

— Паступовая дэмілітарызацыя і гуманізацыя міжнародных адносін, калі, нарэшце, розум, веды і маральныя нормы, а не эгаістычныя імкненні і забабоны будуць кіраваць дзяржавамі пры вырашэнні шматлікіх супярэчнасцей у свеце і дасягненні балансу інтарэсаў, калі будзе прызнана права кожнага на свабоду выбару.

— Забеспячэнне бяспекі дзяржаў усё больш будзе пе-

(Працяг на 4-й стар.).

# Працяг даклада М. С. ГАРБАЧОВА

рамяшчацца са сферы суадносін ваенных патэнцыялаў у сферу палітычнага ўзаемадзеяння і строгага выканання міжнародных абавязацельстваў; будзе складвацца ўсеабдымная сістэма міжнароднай бяспекі, галоўным чынам, праз павышэнне ролі і эфектыўнасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

— Каласальны рост навукова-тэхнічнага патэнцыялу будзе выкарыстоўвацца больш цывілізавана для сумеснага, на карысць усяго чалавецтва вырашэння глабальных эканамічных, экалагічных, энергетычных, харчовых, медыцынскіх і іншых задач.

— Разнастайныя і добраахвотныя сувязі незалежных дзяржаў і народаў будуць надзейна служыць іх узаемаўзбагачэнню — матэрыяльнаму і духоўнаму, умацоўваць структуру ўсеагульнага міру.

Ці няма тут ілюзій? Хіба імперыялістычныя вытокі агрэсіі і войнаў зніклі? Не. Мы не забываем аб пагрозе міру з боку імперыялістычнага мілітарызму і лічым, што пакуль яшчэ не склаліся гарантыі незваротнасці пачатых пазітыўных працэсаў. Новае палітычнае мысленне якраз і дазваляе бачыць і знаходзіць новыя магчымасці процістаяць палітыцы сілы на больш шырокай, чым раней, палітычнай аснове. Умацоўваюць гэтыя магчымасці і новыя аб'ектыўныя фактары, узнікшыя ў другой палавіне нашага стагоддзя.

Гэтым вызначаецца таксама і наша абароннае будаўніцтва, эфектыўнасць якога з цяперашняга часу павінна забяспечвацца пераважна якаснымі параметрамі — як у адносінах да тэхнікі, ваеннай навукі, так і саставу ўзброеных сіл. Яно павінна гарантаваць надзейную бяспеку Савецкай дзяржавы і яе саюзнікаў, ажыццяўляцца ў строгай адпаведнасці з нашай абарончай дактрынай.

У сваёй практычнай міжнароднай дзейнасці мы і ў далейшым будзем шукаць шляхі да трывалага міру і міжнароднага супрацоўніцтва. На першым плане для нас і далей будуць адносіны з сацыялістычнымі краінамі. Мы будзем паслядоўна праводзіць лінію на паглыбленне нашых адносін з дзяржавамі, якія сталі на шлях развіцця, з рухам недалучэння. Весці актыўны дыялог і перагаворы з надзеленымі ўладай у сваіх краінах дзяржаўнымі дзеячамі, перш за ўсё на галоўным напрамку сусветнай палітыкі — па пытаннях раззбраення. За гады перабудовы мы палепшылі або ўпершыню завязалі адносіны з вялікай колькасцю дзяржаў — суседніх і вельмі аддаленых. І ні з кім іх не сапсавалі. Пастараемся дзейнічаць так і ў далейшым.

КПСС лічыць сябе неад'емнай часткай сусветнага камуністычнага руху, які цяпер вядзе цяжкі пошук выхаду на новую стадыю свайго гістарычнага развіцця. І мы будзем — на асновах поўнага раўнапраўя і павагі — актыўна ўдзельнічаць у гэтым пошуку. Нарастаючы міжнародны патэнцыял заключаны ў нашых новых адносінах са шматлікімі грамадскімі сіламі, якія прадстаўляюць сусветную навуку і культуру, з палітычнымі партыямі іншага ідэалагічнага напрамку, у першую чаргу з сацыялістамі, сацыял-дэмакратамі, лейбарыстамі, з іншымі так званымі «левымі» коламі і рухамі. Нязменная наша салідарнасць з працоўнымі ўсяго свету, з барацьбітамі супраць каланіялізму, расізму і рэакцыі.

Таварышы! Савецкая знешняя палітыка, нягледзячы на некаторыя памылкі і пралікі ў мінулым, у цэлым мае велізарныя заслугі перад краінай, сацыялізмам, перад усім чалавецтвам. Перабудова запатрабавала ад яе новай якасці — і па сутнасці, і па форме. Гэтак жа, як і ўнутраная, якая павінна на справе ўбіраць у сябе калектыўную думку партыі і народа. Аператыўна ўлічваць не толькі бягучыя, але і прадказальныя змяненні. Аб'ектыўныя працэсы ў свеце і нашы магчымасці павінны стаць прадметам пастаянных навуковых і публічных абмеркаванняў з удзелам грамадскасці і яе арганізацый. Трэба на парадак узняць якасць інфармацыі па міжнародных пытаннях. У рамках рэформы палітычнай сістэмы трэба будзе стварыць дзейсны канстытуцыйна-паўнамоцны механізм дзелавога і кваліфікаванага абмеркавання пытанняў міжнароднай палітыкі.

## ЧАМУ ПАТРЭБНА РЭФОРМА ПАЛІТЫЧНАЙ СІСТЭМЫ

Мы пачынаем гэту работу не на пустым месцы, не з нуля. У нас за плячамі унікальны вопыт першай у свеце сацыялістычнай дэмакратыі. Народжаныя сацыялізмам формы і метады народаўладдзя аказалі велізарны ўплыў на сацыяльны прагрэс чалавецтва, увайшлі ў палітычную культуру сучаснасці. Менавіта ў нашай краіне нарадзіліся ўлада працоўных, увасобленая ў Рэспубліцы Саветаў, рабочы кантроль, права на працу і іншыя важнейшыя сацыяльныя правы асобы, раўнапраўе жанчыны і мужчыны, нацый і народнасцей. Інакш кажучы, мы былі першымі ў многіх дэмакратычных пачынаннях XX стагоддзя.

Чаму ж сёння ставіцца задача карэннай рэформы палітычнай сістэмы? Справа, таварышы, перш за ўсё ў тым, — і гэта мы з вамі павінны сёння прызнаць, — што на пэўным этапе палітычная сістэма, створаная ў выніку перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, падверглася сур'ёзным дэфармацыям. У выніку сталі магчымымі і ўсеўладдзе Сталіна і яго акружэння, і хваля рэпрэсій і беззаконнасцей. Узнікшыя ў тыя гады каманднa-адміністрацыйныя метады кіравання аказалі згубнае ўздзеянне на розныя бакі развіцця нашага грамадства. У гэту сістэму адыходзяць сваімі каранямі многія цяжкасці, якія мы перажываем і цяпер.

Рашэнні XX з'езда партыі адкрывалі магчымасці для пераадолення парушэнняў ленінскіх прынцыпаў жыцця партыі і дзяржавы. Аднак гэтыя магчымасці не былі выкарыстаны перш за ўсё з прычыны недаацэнкі і прыніжэння значэння сацыялістычнай дэмакратыі. І гэта зноў прывяло да рэцыдываў культавых з'яў.

Існуючая палітычная сістэма аказалася няздольнай аберагчы нас ад нарастання застойных з'яў у гаспадарчым і сацыяльным жыцці ў апошнія дзесяцігоддзі і асудзіла на няўдачу распачатыя тады рэформы. Стала характэрным усё большае сканцэнтраванне гаспадарча-кіраўніцкіх функцый у руках партыйна-палітычнага кіраўніцтва. Адначасова гіпертрафіравалася роля выканаўчага апарату. Колькасць асоб, выбраных у розныя дзяржаўныя і грамадскія органы, дасягала трэці дарослага насельніцтва краіны, але пры гэтым іх асноўная маса была адхілена ад рэальнага ўдзелу ў вырашэнні дзяржаўных і грамадскіх спраў.

У перыяд застою кіраўніцкі апарат, які разросся амаль да сотні саюзных і васьмісот рэспубліканскіх міністэрстваў і ведамстваў, практычна стаў дыктаваць сваю волю і гаспадарцы, і палітыцы. Менавіта ведамствы і іншыя кіраўніцкія структуры трымалі ў руках выкананне прынятых рашэнняў, сваімі дзеяннямі або бяздзейнасцю вызначалі: чаму быць, а чаму не. Саветы, а ў многім і партыйныя органы аказваліся не ў стане кантраляваць напор ведамасных інтарэсаў. Універсальным правілам стала тое, што орган, які прымаў рашэнні, не нёс эканамічнай адказнасці за вынікі сваіх дзеянняў.

Сур'ёзны недахоп існуючай палітычнай сістэмы заключаўся і ў празмерным адзяржаўленні грамадскага жыцця. Вядома, аб'ём задач і функцый дзяржавы пры сацыялізме значна шырэйшы, чым ва ўмовах капіталізму. Але, на думку заснавальнікаў марксізму-ленінізму, такое расшырэнне кіраўніцкіх функцый павінна дасягацца не за кошт узмацнення ўлады, якая апіраецца на адміністраванне і прымус, а перш за ўсё шляхам актывізацыі дэмакратычнага фактару, уключэння ў кіраванне шырокіх народных мас.

Успомнім вядомае ленінскае азначэнне сацыялістычнай дзяржавы як ужо дзяржавы не «ва ўласным сэнсе слова» або нават як «паўдзяржавы», паступова перарастаючай у грамадскае самакіраванне. На жаль, пасля смерці У. І. Леніна ў тэорыі, ды і на практыцы ўзяў верх падыход да дзяржавы якраз у «поўным», гэта значыць, старым сэнсе гэтага паняцця. Дзяржаўнае рэгуляванне было распаўсюджана на празмерна шырокую сферу грамадскай дзейнасці. Імкненне ахапіць дэталёвым цэнтралізаваным планаваннем і кантролем усе куткі жыцця літаральна спавіло грамадства, стала сур'ёзным тормазам для ініцыятывы людзей, грамадскіх арганізацый і калектываў. Гэта парадзіла ў ліку іншага «ценявую» эканоміку і культуру, паразітуючыя на няздольнасці дзяржаўных органаў своечасова і ў поўным аб'ёме задавальняць матэрыяльныя і духоўныя патрэбнасці насельніцтва.

Абюракрачванне дзяржаўных структур, аслабленне сацыяльнай творчасці мас прывучалі грамадства да аднавар'янтнасці і статычнасці мыслення. Склаўся і пакуль яшчэ працягвае ўздзейнічаць на свядомасць людзей спрошчаны, урэзаны вобраз сацыялістычнага народаўладдзя, калі фактычнае ажыццяўленне ўлады атаясамліваецца не з актыўнай палітычнай дзейнасцю працоўных, а перш за ўсё з выканаўчымі органамі.

Нарэшце, дзеючая палітычная сістэма дзесяцігоддзямі прыстасоўвалася не да арганізацыі грамадскага жыцця ў рамках законаў, а галоўным чынам да выканання валявых распараджэнняў і ўказанняў. Абвяшчэнне дэмакратычных прынцыпаў на словах і аўтарытарнасць на справе, трыбунныя заклінанні аб народаўладдзі, але валюнтарызм і суб'ектывізм на практыцы, гаварыльня аб дэмакратычных інстытутах і рэальнае парушэнне норм сацыялістычнага ўкладу жыцця, дэфіцыт крытыкі і публічнасці — усё гэта даволі шырока распаўсюдзілася, укаранілася ў жыцці грамадства.

Расплата за такія метады аказалася суровай — раўнадушнасць, аслабленне сацыяльнай актыўнасці мас, адчужэнне чалавека працы ад грамадскай уласнасці і кіравання. Менавіта ў закасцянелую сістэму ўлады, у яе каманднa-націскны лад упіраюцца сёння карэнныя праблемы перабудовы — і эканамічная рэформа, і развіццё сацыяльна-культурнай сферы, і выхаванне ў людзей па-гаспадарску зацікаўленых адносін да ўсяго, што адбываецца ў краіне.

Вясной 1985 года партыя пачала рашучую барацьбу за абнаўленне грамадска-палітычных структур. Ідзе паступовае адладжванне новага гаспадарчага механізма. Змяняецца характар грамадскіх адносін. Умацоўваюцца прававыя асновы перабудовы. Мы вучымся дэмакратыі і публічнасці, вучымся спрачацца і весці дыскусіі, гаварыць адзін аднаму праўду. Гэта, вядома, ужо нямала.

Але працэсы дэмакратызацыі — і ў цэнтры, і на месцах — разгортваюцца марудна. Сёння трэба мець мужнасць прызнаць: калі палітычная сістэма застанецца нерухомай, без змяненняў, то мы не справімся з задачамі перабудовы.

Ставячы пытанне аб кардынальнай рэформе палітычнай сістэмы, трэба зыходзіць перш за ўсё з яснага ўяўлення: якія яе якасці вытрымалі праверку часам і неабходны нам сёння, а якія, наадварот, неабходна звесці да мінімуму або поўнасцю пераадолець.

Размова, як нам уяўляецца, павінна пайсці аб вырашэнні наступных асноўных задач.

Па-першае, зрабіць усё, каб мільёны і мільёны працоўных былі ўключаны ў кіраванне краінай не на словах, а на справе.

Па-другое, адкрыць максімальны прастор працэсам самарэгулявання і самакіравання грамадства, стварыць умовы для поўнага развіцця ініцыятывы грамадзян, прадстаўнічых органаў улады, партыйных і грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў.

Па-трэцяе, адладзіць механізм свабоднага фарміравання і выяўлення інтарэсаў і волі ўсіх класаў і сацыяльных груп, іх узгаднення і рэалізацыі ва ўнутранай і знешняй палітыцы Савецкай дзяржавы.

Па-чацвёртае, забяспечыць умовы для далейшага свабоднага развіцця кожнай нацыі і народнасці, умацавання іх дружбы і раўнапраўнага супрацоўніцтва на прынцыпах інтэрнацыяналізму.

Па-пятае, радыкальна ўмацаваць сацыялістычную законнасць і правапарадак, з тым каб выключыць магчымасць узурпацыі ўлады і злоўжыванняў, эфектыўна процістаяць бюракратызму і фармалізму, забяспечыць надзейныя гарантыі абароны канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян, а таксама выканання імі абавязкаў у адносінах да грамадства і дзяржавы.

Па-шостае, дакладна размежаваць функцыі партыйных і дзяржаўных органаў у адпаведнасці з ленінскай канцэпцыяй ролі Камуністычнай партыі як палітычнага авангарда грамадства і ролі Савецкай дзяржавы як інструмента ўлады народа.

Нарэшце, па-сёмае, стварыць эфектыўны механізм, які забяспечваў бы своечасовае самаабнаўленне палітычнай сістэмы з улікам зменлівых унутраных і міжнародных умоў, здольнай да ўсё больш актыўнага развіцця і ўкаранення ва ўсе сферы жыцця прынцыпаў сацыялістычнай дэмакратыі і самакіравання.

## ПЕРАБУДОВА І ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

Канчатковай мэтай рэформы палітычнай сістэмы і галоўным крытэрыем таго, наколькі нам удасца ажыццявіць яе, з'яўляюцца ўсебаковае ўзбагачэнне правоў чалавека, павышэнне сацыяльнай актыўнасці савецкіх людзей. Гэта пытанне займае цэнтральнае месца ў тэорыі і практыцы сацыялізму. На фундаменце, створаным Кастрычніцкай рэвалюцыяй у нашай краіне, быў пабудаваны вялікі будынак гарантаваных правоў грамадзяніна ў многіх сферах. Мы карыстаемся імі і — што граху таіць — рэдка задумваемся над тым, што ўсе гэтыя правы, такія для нас прывычныя, застаюцца яшчэ ў многіх раёнах свету толькі надзеяй працоўных, мэтамі іх барацьбы.

Правы чалавека ў нашым грамадстве — не дар дзяржавы, не чыёсьці дабрадзейства. Гэта — неад'емная ўласцівасць сацыялізму, яго заваёва. Асоба і грамадства, грамадзянін і дзяржава, чалавек і калектыў — усё гэта розныя плоскасці адной і той жа праблемы. Тое, як яна вырашаецца, адлюстроўвае прыроду палітычнага ладу і ў многім прадвызначае вынікі дзейнасці людзей, увесь уклад грамадскага жыцця. Сацыялістычнае вырашэнне гэтай праблемы заключаецца ў арганічным спалучэнні калектывісцкай і асабістай асноў. Наша філасофія ў гэтым ключавым пытанні будовы грамадства зыходзіць са славутай формулы «Маніфеста Камуністычнай партыі»: свабоднае развіццё кожнага з'яўляецца ўмовай свабоднага развіцця ўсіх. Нам важна зразумець, таварышы, што менавіта становішчам чалавека ў грамадстве, прадастаўленымі яму правамі і ўскладзенымі на яго абавязкамі вызначаецца, у канчатковым выніку, і яго сацыяльная, працоўная, палітычная актыўнасць. Прычым не толькі зразумець, але і дзейнічаць у гэтым напрамку, ажыццяўляючы эканамічную рэформу і рэформу палітычнай сістэмы.

Якія тут стаяць канкрэтныя задачы?

Перш за ўсё аб сацыяльных правах асобы. У нас склалася разгалінаваная сістэма клопатаў грамадства аб чалавеку, але на цяперашнім этапе развіцця мы бачым яе слабасці і недахопы, імкнёмся зрабіць усё магчымае, каб палепшыць умовы працы, узняць якасць народнай асветы і аховы здароўя, павысіць узровень сацыяльнага забеспячэння працоўных. Ва ўсім гэтым праяўляецца цвёрдая ўстаноўка партыі на забеспячэнне раўнапраўя савецкіх людзей, іх сацыяльнай абароненасці.

Але вось што трэба сказаць у сувязі з гэтым. Мы хочам умацаваць гарантыі сацыяльна-эканамічных правоў асобы, а для гэтага неабходны адпаведныя змены эканамічных і палітычных умоў. Але і характар гэтых змен, і тэрміны іх ажыццяўлення цесна звязаны з працоўнай дзейнасцю ўсіх членаў савецкага грамадства. Сацыяльныя даброты, атрымліваемыя ад грамадства, і адносіны да працы счэплены самым непарыўным чынам. Важна, каб кожны чалавек зразумеў неабходнасць патрабавальных адносін да самога сябе. Тут яшчэ раз выяўляецца важнасць гаспадарча-разліковых прынцыпаў вядзення гаспадаркі, якія дазваляюць увязаць не толькі заробак, але і задавальненне сацыяльных патрэбнасцей з працоўным укладам чалавека, кожнага калектыву. Каштоўнасці і даброты не паяўляюцца самі сабой. Іх стварае толькі праца. Для нас непрымальныя нядобрасумленныя адносіны да справы, нізкая дысцыпліна працы, інертнасць, сацыяльнае ўтрыманства.

(Працяг на 5-й стар.).

# Працяг даклада М. С. ГАРБАЧОВА

Так, мы ведаем, што ў гады застою накапілася нямала цяжкіх праблем у сферы працоўнай дзейнасці. Цяпер нам прыходзіцца выпраўляць справу і наганяць упушчанае. І гэта не так проста, паколькі датычыць усяго грамадства.

Перабудова паставіла пытанне аб палітычных правах чалавека. На іх рэалізацыі асабліва адчувальна адбіліся каманднаадміністрацыйныя метады кіраўніцтва і звязанае з імі абмежаванне дэмакратыі. Усё гэта затармазіла і ўскладніла працэс пераадолення адчужэння чалавека ад улады, ад палітыкі — працэс, пачаты Кастрычнікам.

Праект палітычнай рэформы, які выносіцца на абмеркаванне нашай канферэнцыі, якраз і накіраваны на тое, каб паскорыць працэс шырокага ўцягнення працоўных у кіраванне справамі краіны. А для гэтага павінны быць, натуральна, створаны рэальныя ўмовы — зменена выбарчая сістэма, рэарганізавана структура органаў улады і кіравання, абноўлена заканадаўства. Вядома, гэта мае на ўвазе і адпаведныя змяненні ў грамадскай свядомасці мільёнаў і мільёнаў людзей.

Вось цяпер часта гавораць і пішуць з месцаў, што перабудова не дайшла да іх, пытаюць, калі гэта здарыцца. Але перабудова — гэта не манна нябесная, і трэба не чакаць, пакуль яе завязуць адкуль-небудзь, а тварыць у сваім горадзе або вёсцы, у сваім працоўным калектыве. Сёння як ніколі патрэбны ўчынкі, справы, а не размовы накошт перабудовы. Многае тут залежыць ад нашых кадраў, кіраўнікоў раённага, гарадскога, абласнога, рэспубліканскага і саюзнага маштабу.

Але ў тым, што ў нас яшчэ нямала месцаў, дзе перабудова прабуксоўвае, вінаваты далёка не толькі кіраўнікі. Як вядома, ківаць на начальства — справа самая лёгкая і, дарэчы, вельмі ў нас распаўсюджаная. Гэту прывычку яшчэ можна было неяк зразумець, калі грамадская атмасфера ў краіне, дзейнасць партыйных і дзяржаўных органаў не стваралі належных прадпасылак для праяўлення актыўнай грамадзянскай пазіцыі. Але цяпер, таварышы, усё карэнным чынам мяняецца, і многія грунтоўна ўключыліся ва ўсе працэсы перабудовы. Таму тым, хто і сёння працягвае скардзіцца, ківаць на начальства, на «вярхі», мы павінны задаць прамое пытанне: а што ты зрабіў для перабудовы?

Асобна хачу спыніцца на палітычных свабодах, якія даюць магчымасць чалавеку выказаць сваю думку па любому пытанню. Ажыццяўленне гэтых свабод — рэальная гарантыя таго, каб любая праблема, якая мае грамадскую цікавасць, усебакова абмяркоўвалася, каб узважваліся ўсе «за» і «супраць», і гэта дапамагала б знайсці найбольш правільныя рашэнні з улікам усіх разнастайных думак і рэальных магчымасцей. Словам, таварышы, размова ідзе аб новай ролі грамадскай думкі ў краіне. І не трэба баяцца навізны, непрывычнасці меркаванняў, не трэба шарахацца і ўпадаць у крайнасці пры кожным павароце дыскусій.

Хачу закрануць і такое прынцыповае пытанне, як свабода веравызнання. Цяпер да яго праяўляецца павышаная ўвага ў сувязі з 1000-годдзем уведзення хрысціянства на Русі. Мы не ўтойваем сваіх адносін да рэлігійнага светапогляду як нематэрыялістычнага, ненавуковага. Але гэта не падстава для непаважлівых адносін да духоўнага свету веруючых людзей і тым больш — прымянення якога б там ні было адміністрацыйнага націску для ўсталявання матэрыялістычных перакананняў.

Прыняты 70 гадоў назад ленінскі Дэкрэт аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы стварыў новыя асновы адносін паміж імі. Вядома, што не заўсёды гэтыя адносіны складваліся нармальна. Але само жыццё, гісторыя аб'ядноўвала веруючых і няверуючых як грамадзян Савецкай краіны, патрыётаў і ў гады выпрабаванняў Вялікай Айчыннай вайны, і ў стварэнні нашага сацыялістычнага грамадства, і ў барацьбе за мір.

Усе веруючыя, незалежна ад таго, якую рэлігію яны вызнаюць, з'яўляюцца паўнапраўнымі грамадзянамі СССР. Пераважная большасць іх актыўна ўдзельнічае ў нашым вытворчым і грамадскім жыцці, вырашэнні задач перабудовы. Распрацоўваемы цяпер праект Закона аб свабодзе веравызнання грунтуецца на ленінскіх прынцыпах, улічвае ўсе сучасныя рэальнасці.

Цяпер аб асабістых правах грамадзян. Тут таксама патрэбна больш дакладнае заканадаўчае ўрэгуляванне. Сёе-тое ўжо зроблена. З вялікім задавальненнем сустрэта рашэнне не разглядаць ананімкі, устанаўленне крымінальнай адказнасці за праследаванне за крытыку, парадку абскарджвання ў суд незаконных дзеянняў службовых асоб, кампенсацыі ўрону, нанесенага такімі дзеяннямі, узмацненне абароны правоў псіхічна хворых людзей. Увесь наш правапарадак закліканы гарантаваць строгае ахаванне правоў грамадзян на недатыкальнасць асабістага жыцця, жылля, тайну тэлефонных перагавораў, перапіскі, паштовых і тэлеграфных адпраўленняў. Закон павінен надзейна аберагаць асабістую годнасць чалавека.

Усямерна ахоўваючы і гарантуючы правы і свабоды савецкіх людзей, мы не можам разглядаць іх ізалявана ад грамадзянскіх абавязкаў. Дэмакратыя мае на ўвазе разумны грамадскі парадак, без якога, уласна кажучы, не можа быць і асабістай свабоды. Наша заканадаўства мае сваёй мэтай рашуча абараняць грамадства ад усялякіх ірвачоў, хапуг, несунаў, хуліганаў, паклёпнікаў, хамаў. Грамадства павінна мець эфектыўныя сродкі ўздзеяння на антыграмадскія элементы, іх перавыхавання і ўключэння ў нармальнае працоўнае жыццё.

І яшчэ адна праблема. Зацвярджэнне асабістых правоў і свабод, расшырэнне ў цэлым дэмакратыі і публічнасці павінны ісці разам з умацаваннем законнасці, выхаваннем безумоўнай павагі да закона. Дэмакратыя несумяшчальная ні са сваавольствам, ні з безадказнасцю, ні з распушчанасцю.

Як вы ведаеце, у апошні час мы не раз сутыкаліся са спробамі выкарыстаць дэмакратычныя правы ў антыдэмакратычных мэтах. Сяму-таму здаецца, што такім чынам можна вырашаць любыя пытанні — ад перакройкі граніц да стварэння апазіцыйных партый. ЦК КПСС лічыць, што падобныя злоўжыванні дэмакратызацыяй у корані супярэчаць задачам перабудовы, ідуць уразрэз з інтарэсамі народа.

У праблемы правоў чалавека ёсць і важны міжнародны аспект. Мы глыбока перакананы ў правільнасці свайго сацыялістычнага выбару і маем цвёрды намер, ліквідуючы ўсе перакосы і дэфармацыі, узбагачаць правы асобы менавіта на сацыялістычнай глебе, дзейнічаючы ў тых рамках і тымі метадамі, якія адпавядаюць прыродзе нашага ладу. Але ў сучасных умовах правы чалавека і перш за ўсё права на жыццё становяцца прадметам клопатаў усяго сусветнага супольніцтва, інтэрнацыяналізуюцца, як і многія іншыя аспекты грамадскага жыцця.

Мы гатовы актыўна супрацоўнічаць з усімі іншымі краінамі, абменьвацца вопытам, скрупулёзна выконваць узятыя на сябе абавязацельствы.

Мы перакананы ў тым, што перабудова дазволіць паказаць безумоўныя перавагі сацыялізму ў забеспячэнні ўсіх правоў чалавека — сацыяльных, палітычных і індывідуальных.

І сёння, калі мы разгортваем працэсы дэмакратызацыі і самакіравання, трэба ў поўную меру выкарыстоўваць гэты інструмент народаўладдзя.

Як сказана ў Тэзісах ЦК КПСС, уяўляецца неабходным стварэнне адзінай, падпарадкаванай выбарным органам улады сістэмы грамадска-дзяржаўнага кантролю. А каб надаць належную вагу гэтай сістэме, старшыня Камітэта народнага кантролю мог бы быць, як ужо гаварылася, першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета СССР. Такая сістэма кантролю, у якой спалучаюцца дзяржаўная і грамадская асновы і якая апіраецца на шырокую сетку народных кантралёраў, што працуюць у працоўных калектывах, стане сапраўды магутнай сілай ачышчэння грамадства ад негатыўных з'яў, масавай школай самакіравання.

Інакш кажучы, нам трэба, з аднаго боку, адрадзіць добрую традыцыю рабоча-сялянскай інспекцыі ленінскай пары, а з другога — узняць усю кантрольную работу на ўзровень сучасных задач.

## ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ ДЗЯРЖАЎНАГА КІРАВАННЯ

Цяпер, калі на першы план ставіцца задача ўсямерна расшырыць удзел працоўных у кіраванні, неабходна асэнсаваць, як у канкрэтных умовах павінен прымяняцца прынцып дэмакратычнага цэнтралізму. Вывучэнне гэтага пытання прыводзіць да вываду: галоўная тэндэнцыя, адпавядаючая патрэбнасцям развіцця грамадства, — гэта дэцэнтралізацыя, праводзімая, вядома, пры захаванні тых функцый цэнтра, без якіх немагчымы рэалізацыя пераваг сацыялізму, забеспячэнне агульнанародных інтарэсаў.

Аб'ектыўны аналіз паказвае, што пры цяперашніх маштабах нашай народнай гаспадаркі, разнастайнасці праблем грамадскага жыцця нельга своечасова і правільна вырашаць усе ўзнікаючыя пытанні з аднаго цэнтра. А адсюль вынікае неабходнасць перадаць многія паўнамоцтвы на месцы — у рэспубліцы, краі, вобласці і раёны, у працоўныя калектывы.

Пакуль жа, таварышы, сітуацыя выглядае так, што не толькі Ураду, але і Палітбюро ЦК КПСС, Сакратарыяту ЦК даводзіцца вырашаць дзесяткі і сотні пытанняў, большасць якіх без усякага ўрону для справы можа быць перададзена ніжэйстаячым савецкім, гаспадарчым і іншым органам. Да такога парадку ўсе прывыклі. Кіруючыя кадры па прычыне і без прычыны шлюць тэлеграмы з рознымі просьбамі ў ЦК і ўрад, а грамадзяне звяртаюцца са шматлікімі заявамі па пытаннях, якія па сутнасці сваёй павінны вырашацца на месцах. Прычым у горадзе, раёне, сяле.

Зразумела, пераразмеркаванне функцый і паўнамоцтваў — справа даволі адказная, яе нельга пусціць на самацёк. Тут патрэбны і моцны палітычны імпульс, і дакладная прававая аснова. Правесці значную па маштабах дэцэнтралізацыю — значыць забяспечыць жыватворны прыток крыві да капіляраў нашай палітычнай і эканамічнай сістэмы, але зразумела, што пры гэтым ні ў якім разе нельга парушыць кровазабеспячэнне мозгу і сэрца нашага грамадскага арганізма.

Важнае месца ў гэтым належыць Савету Міністраў СССР, які з'яўляецца вышэйшым выканаўча-распарадчым органам улады, падсправаздачным Вярхоўнаму Савету СССР. Ва ўмовах размежавання функцый партыйных і дзяржаўных органаў адказнасць Савета Міністраў за рэалізацыю ўнутранай і знешняй палітыкі, распрацоўку і ажыццяўленне планаў і перспектыўных праграм эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця нязмерна ўзрастае. Для выканання гэтых функцый Савет Міністраў мае шырокія паўнамоцтвы, прадугледжаныя нашай Канстытуцыяй.

Прызнаючы выключную важнасць дэцэнтралізацыі і барацьбы з ведамаснасцю, мы разам з тым павінны ясна сказаць, што яны не маюць нічога агульнага з заахвочваннем месніцтва. А паколькі такая пагроза зусім рэальная, нам патрэбны сур'ёзныя процівагі. За цэнтрам павінна быць захавана права сказаць сваё слова, а самае галоўнае — павінен быць рашуча ўмацаваны дэмакратычны кантроль знізу, з боку працоўных. Мы ўсе, думаю, прагаласуем за самакіраванне, але супраць самаўпраўства, за ўлік мясцовых інтарэсаў, але і за тое, каб яны абавязкова спалучаліся з інтарэсамі ўсяго грамадства. Словам, зробяць грубую памылку тыя, хто палічыць, што лінія на дэцэнтралізацыю адкрывае шлюзы для месніцтва або рэгіянальнага эгаізму.

Праблема рацыянальнага спалучэння цэнтралізму і дэцэнтралізацыі паўстае і ў сувязі з прынятымі Законамі аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні), аб кааперацыі, аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці. Выхадным пунктам у вызначэнні функцый і структуры органаў кіравання павінны быць прынцыпы, сфармуляваныя ў гэтых дакументах. Яны ўжо не могуць, як раней, камандаваць працоўнымі калектывамі.

Наогул, таварышы, дэмакратызацыя на ўзроўні гаспадарча-разліковага звяна, асобнага працоўнага калектыву або кааператыва не дасць належнага эфекту — і мы ў гэтым пераканаліся ўжо на першым этапе рэформы, — калі не будзе дапоўнена дэмакратызацыяй кіравання на ўзроўні міністэрстваў, тэрытарыяльных органаў, цэнтральных эканамічных ведамстваў.

А гэта значыць, што трэба паслядоўна весці лінію на спрашчэнне структуры, аб'яднанне органаў кіравання аднароднымі галінамі і сферамі дзейнасці, змяншэнне колькасці міністэрстваў і ведамстваў, ліквідацыю лішніх звенняў, прамежкавых і перадатачных структур.

Усе мы разумеем, таварышы, што цяпер, калі вырашаюцца найскладанейшыя задачы перабудовы, дэмакратызацыі грамадства, шырокага ўцягнення народа ў кіраванне, мы з вамі не можам абысціся без апарату і не павінны зняважліва адносіцца да яго кадраў. Апарат кіравання нам патрэбен, але ён павінен быць іншым, чым цяпер.

Трэба змагацца за апарат новага тыпу, што заснаваны на высокім прафесіяналізме, валодае сучаснай інфармацыйнай тэхналогіяй, дэмакратычна кантралюецца народам, здольны рухаць наперад эканамічны і сацыяльны прагрэс. І працаваць у такім апараце павінны людзі, якія добра валодаюць асновамі навукі кіравання. Адсюль і задача па-новаму, на сучасным узроўні наладзіць падрыхтоўку і перападрыхтоўку адпаведных кадраў.

Работа па ўпарадкаванню структуры кіравання пачалася цяпер ва ўсіх звеннях. Ліквідавана частка міністэрстваў і ведамстваў у цэнтры і ў рэспубліках, кіраўніцкіх падраздзяленняў на месцах. Разгледжаны і зацверджаны новыя генеральныя схемы кіравання. У адпаведнасці з імі апарат саюзных ведамстваў скарачаецца на 40 працэнтаў, у саюзных рэспубліках — напалавіну, а ў аўтаномных рэспубліках, краях і абласцях — на трэць. У рамках эканамічнай рэформы, якая разгортваецца, і прадпрыемствы пачалі вызваляцца ад лішняга адміністрацыйнага персаналу.

Працэс гэты, аднак, праходзіць небязбалесна, сустракае супраціўленне. Але трэба сказаць, што і ЦК КПСС, і ўрад падвяргаюцца справядлівай крытыцы працоўных за тое, што справа ідзе марудна. І сёння, праз тры гады перабудовы, яшчэ захоўваецца грувасткі кіраўніцкі апарат, значная частка якога з усіх сіл стараецца ўтрымаць свае пазіцыі, не лічачыся з інтарэсамі грамадства. І тут нам, вядома, неабходна арыентавацца на зусім абгрунтаваныя патрабаванні народа.

Гаворачы аб неабходнасці радыкальнага павышэння эфектыўнасці дзеючай у нас сістэмы кіравання, трэба браць яе ў цэлым. Ніводнае яе звяно не можа заставацца па-за перабудовай на прынцыпах дэмакратычнага абнаўлення. Гэта ў поўнай меры адносіцца да ўстаноў, звязаных з ажыццяўленнем знешнепалітычных і знешнеэканамічных функцый. Праводзімыя ў іх у апошні час істотныя пераўтварэнні — нармальны працэс, які адпавядае духу часу. Трэба падтрымаць і мэтанакіраваную работу кіраўніцтва Камітэта дзяржаўнай бяспекі, Міністэрства абароны і Генеральнага штаба па ўдасканаленню сваёй дзейнасці ва ўмовах цяперашняга этапа развіцця нашага грамадства, разгортвання дэмакратычных працэсаў.

Словам, таварышы, працэс дэмакратызацыі востра ставіць задачу якаснага паляпшэння сістэмы кіравання шляхам устанаўлення правільных суадносін цэнтра і месцаў, выбарных і выканаўчых органаў, рэальнага расшырэння ўдзелу працоўных у кіраванні. Пытанне, значыць, не зводзіцца да чыста арганізацыйных перамен, і гэта вельмі важна для разумення характару будучай работы.

## РАЗВІЦЦЁ МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫХ АДНОСІН

Таварышы! Адной з найвялікшых заваёў сацыялізму стаў існуючы ў нашай краіне саюз раўнапраўных нацый і народнасцей. Гэта дазваляе сёння з вялікай перакананасцю сказаць, што і ў далейшым адзіна здаровай асновай нашага развіцця можа быць толькі паслядоўнае правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі.

(Працяг на 6-й стар.).

# Працяг даклада М. С. ГАРБАЧОВА

Жыццё пацвердзіла правільнасць ідэі, закладзенай у арганізацыю нашага вялікага саюза,— складанне, аб'яднанне намаганняў далі магчымасць кожнай нацыі і грамадству ў цэлым рэзка паскорыць свой рух, выйсці на новыя рубяжы гістарычнага прагрэсу. Пры ўсіх цяжкасцях, якія былі на нашым шляху, сёння мы канстатуем, што гэты саюз вытрымаў праверку часам. Ён працягвае заставацца рашаючай прадпасылкай далейшага развіцця ўсіх нашых народаў.

Пытанню развіцця міжнацыянальных адносін, як вядома, намечана прысвяціць спецыяльны Пленум ЦК. Але нам трэба ўжо цяпер, на нашай канферэнцыі, звярнуцца да гэтай надзвычай важнай і злабадзённай праблемы. Тут важна бачыць усю рэальную карціну: і несумненныя дасягненні, і відавочныя недапрацоўкі, хібы і цяжкасці, звязаныя з нявырашанасцю канкрэтных сацыяльна-эканамічных пытанняў, а таксама з няўменнем часам звязаць разам нацыянальныя і агульнанародныя інтарэсы.

Нам трэба будзе грунтоўна заняцца далейшым развіццём і аптымізацыяй існуючых міжрэспубліканскіх гаспадарчых і навукова-тэхнічных сувязей, больш поўна рэалізаваць перавагі ўнутрысаюзнага падзелу і кааперацыі працы, навукова абгрунтаванай рэгіянальнай палітыкі. Многа значыць тут публічнасць. Працоўныя павінны поўнасцю быць у курсе таго, як развіваецца іх рэспубліка і якое месца яна займае ў народнагаспадарчым комплексе. Яны павінны ведаць, як жывуць і развіваюцца не толькі іх суседзі, але і ўсе рэспублікі краіны. Гэта неабходна рабіць яшчэ і таму, што часам прыходзіцца сутыкацца з размовамі і меркаваннямі аб узаемаадносінах паміж рэспублікамі, заснаванымі на недастаткова поўнай або нават аднабокай інфармацыі.

Будзе правільна, калі наша партыйная канферэнцыя ў якасці надзейных арыенціраў для міжнацыянальных адносін у сферы эканомікі выкажацца за прынцыпы справядлівасці і брацкай інтэрнацыянальнай дапамогі адзін аднаму, за ўзаемадзеянне, якое забяспечвае і агульны ўздым, і паляпшэнне эканамічных і сацыяльных умоў жыцця ўсіх нацый і народнасцей краіны.

У сучаснай абстаноўцы павінны быць асэнсаваны і прыведзены ў адпаведнасць з радыкальнай эканамічнай рэформай правы саюзных рэспублік. Відаць, мэтазгодна, каб, выканаўшы абавязацельствы перад саюзным фондам, яны маглі нарошчваць вытворчасць для ўласных патрэб за кошт умелага, ініцыятыўнага гаспадарання. Гэта таксама адпавядала б патрабаванням сацыяльнай справядлівасці ў развіцці нацыянальных адносін, стымулявала наш агульны рух наперад.

У апошнія гады ў працэсе дэмакратызацыі і публічнасці высвечваюцца і такія праблемы, існаванне якіх не заўсёды дастаткова ўлічвалася,— напрыклад, пытанні, звязаныя з мовай, культурай, літаратурай і мастацтвам, гістарычнымі помнікамі, аховай прыроды.

Развіццё нашай многанацыянальнай дзяржавы, натуральна, суправаджаецца ростам нацыянальнай самасвядомасці. З'ява гэта пазітыўная, але паколькі ўзнікаючым у сувязі з ёй новым патрэбнасцям не заўсёды ўдзялялася належная ўвага, некаторыя пытанні пачалі ўскладняцца, набываць у радзе выпадкаў нацыяналістычную афарбоўку. Хоць у прынцыпе іх можна было спакойна вырашаць, не даючы падставы для рознага роду спекуляцый і эмацыянальных перабольшанняў.

У апошні час мы наглядна пераканаліся, у якія вузлы могуць звязацца праблемы міжнацыянальных адносін. І трэба як зрэнку вока берагчы брацтва і дружбу нашых народаў. Іншага шляху, разумнай альтэрнатывы, проста не існуе, таварышы. Той жа, хто стараецца даказваць іншае, ашуквае і сябе, і іншых. Больш таго, спрабаваць сутыкнуць людзей розных нацыянальнасцей, пасеяць варожасць і непрыязнасць паміж імі — значыць браць на сябе цяжкую адказнасць перад сваім народам і сацыялістычным грамадствам, не гаворачы ўжо пра закон. Аб'ектыўна такія дзеянні перашкаджаюць і працэсу дэмакратызацыі, і справе перабудовы.

Пытанні міжнацыянальных адносін нам неабходна разглядзець і ў кантэксце цяперашняга этапа развіцця савецкай многанацыянальнай дзяржавы. Трэба абагульніць набыты намі вопыт, выкарыстаць усё каштоўнае і ў той жа час выявіць тое, ад чаго трэба пазбавіцца. Прама скажам, тут ёсць над чым падумаць. І перш за ўсё нам трэба ацаніць многія нарматыўныя акты, якія рэгулююць узаемадзеянне Саюза і рэспублік — наколькі яны адпавядаюць цяперашнім умовам, задачам і патрэбнасцям нашага многанацыянальнага грамадства, узр[illegible] развіцця дэмакратыі. Гэта, відаць, запатрабуе і ўдакладніць становішча, правы і абавязкі саюзных, аўтаномных рэспублік, іншых нацыянальных утварэнняў.

У рэчышчы гэтага ж падыходу трэба разгледзець і такое пытанне. Наша грамадства вызначаецца вялікай рухомасцю насельніцтва, многія людзі жывуць за межамі сваіх нацыянальных утварэнняў, а ёсць і народнасці, якія не маюць тэрытарыяльнай аўтаноміі. Усё гэта рэальнасці нашай многанацыянальнай дзяржавы. Тут могуць узнікаць пэўныя калізіі, і для іх вырашэння ў нас ёсць толькі адзін шлях: у рамках існуючай структуры саюзнай дзяржавы забяспечваць максімальны ўлік інтарэсаў у кожнай нацыі і народнасці і ўсяго супольніцтва савецкіх народаў. Іншы падыход у нашых канкрэтных умовах проста немагчымы, любая спроба ступіць на іншы шлях была б гібельнай.

Возьмем, напрыклад, Казахстан. Велізарная рэспубліка, якая мае вялікія магчымасці для развіцця, сапраўдная інтэрнацыянальная супольнасць, дасягненні якой з'яўляюцца вынікам супрацоўніцтва ўсіх нашых народаў. Гэту зямлю асвойвалі і жывуць на ёй разам казахі, рускія, украінцы, немцы, кіргізы, татары, узбекі, туркмены, прадстаўнікі многіх іншых нацый і народнасцей. І ў той жа час ніхто не ставіць пад сумненне цэласнасць казахскай рэспублікі. У той ці іншай меры такую ж карціну можна назіраць і ў іншых рэспубліках.

Інтэрнацыяналізацыі эканомікі, ды і ўсяго грамадскага жыцця нам не пазбегнуць. І ўсякае імкненне да нацыянальнай замкнутасці можа прывесці толькі да эканамічнага і духоўнага збяднення. Наш, сацыялістычны, падыход іншы: мы дабіваемся таго, каб чалавек любой нацыянальнасці быў на справе паўнапраўным у любым раёне краіны, каб ён усюды мог рэалізаваць свае правы і законныя інтарэсы.

Выступаючы за далейшае ўмацаванне міжнацыянальных адносін, мы зыходзім з таго, што развіццё савецкай саюзнай дзяржавы, інтэрнацыянальныя сувязі і брацтва нашых народаў — гэта жывыя дынамічныя працэсы. Яны павінны быць пастаянна ў полі зроку і рэспубліканскіх, і саюзных органаў. Звязаныя з імі праблемы трэба вырашаць, апіраючыся на волю народаў, іх узаемную згоду, з улікам інтарэсаў усіх савецкіх людзей.

Вельмі важна, каб у рамках нашай палітычнай сістэмы існавалі на пастаяннай аснове такія дзяржаўныя і грамадскія інстытуты, якія займаліся б усім комплексам міжнацыянальных праблем. Вышэй я ўжо гаварыў, што гэта павінна стаць адной з галоўных задач Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР.

Увогуле, таварышы, Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — наш агульны дом. І мы, яго гаспадары, абавязаны пастаянна аб ім клапаціцца, берагчы і добраўпарадкоўваць, старацца так весці справу, каб усе савецкія людзі, жывучы ў ім, адчувалі гордасць за сваю сацыялістычную Айчыну.

Гэта, відаць, трэба асабліва падкрэсліць у рэзалюцыі нашай канферэнцыі аб удасканаленні нацыянальных адносін.

## ФАРМІРАВАННЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПРАВАВОЙ ДЗЯРЖАВЫ

Не магу не адзначыць цікавасці, якую выклікала палажэнне Тэзісаў ЦК аб тым, што працэс паслядоўнай дэмакратызацыі савецкага грамадства павінен завяршыць стварэнне сацыялістычнай прававой дзяржавы. Калі гаварыць коратка, то галоўнае для характарыстыкі прававой дзяржавы заключаецца ў тым, каб на справе забяспечыць вяршэнства закона. Ні адзін дзяржаўны орган, службовая асоба, калектыў, партыйная або грамадская арганізацыя, ні адзін чалавек не вызваляюцца ад абавязку падпарадкоўвацца закону. Як грамадзяне нясуць адказнасць перад сваёй агульнанароднай дзяржавай, так і дзяржаўная ўлада нясе адказнасць перад грамадзянамі. Іх правы павінны быць надзейна абаронены ад любога самавольства ўлады і яе прадстаўнікоў.

Перабудова асабліва выразна выявіла кансерватызм існуючай у нас прававой сістэмы, якая ў значнай сваёй частцы зарыентавана пакуль не на дэмакратычныя, не на эканамічныя, а на камандна-адміністрацыйныя метады кіраўніцтва з іх шматлікімі забаронамі і дробязнай рэгламентацыяй. Многія дзеючыя прававыя акты ператварыліся таму ў тормаз грамадскага развіцця. Адсюль — неабходнасць рэформы савецкага заканадаўства, якая павінна ахапіць вялікі масіў прававых норм, што ў першую чаргу адносяцца да сацыялістычнай уласнасці, планавання, да гаспадарчых, працоўных, падатковых, пенсіённых і іншых адносін. Пры абнаўленні заканадаўства трэба строга прытрымлівацца прынцыпу — дазволена ўсё, што не забаронена законам.

Велізарнае значэнне мае дзейнасць судовых органаў. Ад таго, наколькі дакладныя вагі правасуддзя, залежыць лёс многіх людзей, абарона іх правоў, непазбежнасць пакарання тых, хто парушыў закон. У гэтых умовах крайне важна аднавіць ленінскае бачанне ролі суда ў сістэме нашай дэмакратыі, строга прытрымлівацца прынцыпу незалежнасці суддзяў, падпарадкавання іх толькі закону. Адной з важных гарантый гэтага можа стаць выбранне судоў вышэйстаячымі Саветамі народных дэпутатаў на больш працяглы, скажам, дзесяцігадовы тэрмін.

Грамадскасць патрабуе ўзмацніць адказнасць за непавагу да суда, за ўмяшанне ў яго дзейнасць, забяспечыць найстражэйшае выкананне такіх дэмакратычных асноў судаводства, як спаборнасць і роўнасць бакоў, публічнасць і адкрытасць, выключэнне ўсякай прадузятасці, абвінавальніцкага ўхілу, няўхільнае ажыццяўленне прынцыпу прэзумпцыі невінаватасці.

Справядліва ставіцца пытанне аб павышэнні ролі народных засядацеляў. У прыватнасці, заслугоўвае ўвагі прапанова аб павелічэнні іх колькасці пры разглядзе найбольш складаных спраў.

Такім чынам, таварышы, мы стаім перад неабходнасцю буйной судовай рэформы.

Асобна трэба сказаць аб ролі і адказнасці пракуратуры. За апошнія два дзесяцігоддзі на яе было ўскладзена мноства дадатковых абавязкаў, якія так або інакш адцяснялі яе функцыі па нагляду за законнасцю на другі або нават на трэці план. ЦК КПСС прызнаў неабходным ліквідаваць гэты пер[illegible], паставіўшы задачу вяр[illegible]а да ленінскай пазіцыі і ўсталяваць у якасці галоўнай функцыі пракурораў нагляд за паўсюдным і дакладным разуменнем і прымяненнем савецкіх законаў.

Важнай умовай узмацнення барацьбы са злачыннасцю з'яўляецца пачатая работа па змяненню крымінальнага, а затым працэсуальнага і папраўча-працоўнага заканадаўства, прывядзенне яго норм у адпаведнасць з патрэбнасцямі грамадства на сучасным этапе развіцця.

Вялікая ўвага павінна быць удзелена паляпшэнню работы міліцыі. За апошнія два-тры гады ў яе па рэкамендацыі партыйных камітэтаў і працоўных калектываў прыйшлі дзесяткі тысяч камуністаў і камсамольцаў — прадстаўнікі рабочага класа і сялянства. Гэта паслужыць аздараўленню органаў МУС, дзе, як вядома, таксама дапускаюцца сур'ёзныя збоі ў рабоце і, на жаль, злоўжыванні. Галоўнае, што павінна дапамагчы нам рашуча павысіць узровень работы міліцыі,— гэта работа з кадрамі, іх палітычнае выхаванне, юрыдычная падрыхтоўка і павышэнне прафесіянальнага майстэрства.

Заслугоўвае падтрымкі і прапанова аб перадачы ўжо ў бліжэйшы час расследавання асноўнай колькасці крымінальных спраў у следчы апарат МУС і выдзяленні яго ў самастойную структуру, якая не падпарадкоўваецца мясцовым органам міліцыі. Гэта дазволіць, як уяўляецца, лепш выкарыстоўваць магчымасці савецкай міліцыі ў барацьбе са злачыннасцю, у падтрыманні грамадскага парадку.

У мэтах узмацнення абароны правоў грамадзян правамерна паставіць пытанне аб павышэнні ролі адвакатуры як самакіруемай асацыяцыі, а таксама аб больш актыўным удзеле адвакатаў у разглядзе крымінальных і грамадзянскіх спраў.

У сувязі з пераходам нашай эканомікі на прынцыпы гаспадарчай рэформы трэба істотна ўмацаваць юрыдычную службу Саветаў, міністэрстваў, ведамстваў, гаспадарчых і іншых арганізацый, органы дзяржаўнага арбітражу. Ва ўмовах гаспадарчага разліку і самакіравання, калі дагаворныя адносіны будуць усё больш пранізваць усю аснову вытворчых сувязей, надзейная работа юрыдычных службаў набывае першараднае значэнне. Без гэтага цяжка гаварыць аб граматным вырашэнні мноства прававых і іншых пытанняў, узнікаючых у ходзе перабудовы.

Намячаемая прававая і судовая рэформа, асноўныя напрамкі якой прапануецца вызначыць у асобнай рэзалюцыі нашай канферэнцыі, несумненна, запатрабуе сур'ёзнага кадравага забеспячэння. Тут не абысціся без выпрацоўкі спецыяльнай праграмы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі юрыстаў. Адначасова трэба вырашыць і наспеўшыя пытанні матэрыяльнага забеспячэння юрыдычных кадраў. Пачынаць юрыдычны ўсенавуч трэба са школы, працягваць яго ў тэхнікумах і ВНУ, на прадпрыемствах і ва ўстановах. Думаю, павышэнне матэрыяльнай зацікаўленасці, самі ўмовы гаспадарчага разліку будуць у многім садзейнічаць засваенню шырокімі масамі працоўных асноў прававых ведаў, умацаванню правапарадку ў нашай краіне.

## ПРАЗ РЭВАЛЮЦЫЙНУЮ ПЕРАБУДОВУ—ДА НОВАГА АБЛІЧЧА САЦЫЯЛІЗМУ

Таварышы! Лютаўскі Пленум ЦК паставіў задачу абнаўлення нашай ідэалогіі ў адзін рад з радыкальнай эканамічнай рэформай і дэмакратызацыяй партыйнага і грамадскага жыцця. Гэтым падкрэслена, якую актыўную ролю адводзіць партыя ідэалагічнай рабоце ў дасягненні мэт перабудовы.

Адступленні ад прынцыпаў творчага марксізму-ленінізму пакінулі ў ідэалогіі цяжкі след. Знізіўся яе тэарэтычны ўзровень, прапаганда нярэдка ішла ўразрэз з рэальнасцямі жыцця. Па сутнасці ідэалагічная работа стаяла на службе дагматычных уяўленняў аб сацыялізме, страціла крытычныя адносіны да рэчаіснасці і тым самым садзейнічала застойным з'явам. Прапаганда, абыходзячы актуальныя праблемы быцця, выраджалася ў рытарычнае пустаслоўе і славаслоўе, набывала чыста рытуальнае значэнне. Страта інтэлектуальнай ініцыятывы, дагматызм, разрыў слова і справы прывялі да аслаблення ідэйнага ўплыву партыі.

Мінулыя тры гады адзначаны напружанай работай грамадскай свядомасці. Ішла шчырая, крытычная размова аб становішчы спраў ва ўсіх сферах нашага жыцця. Бадай, упершыню за вельмі многія гады, нават дзесяцігоддзі мы глянулі на саміх сябе не толькі адкрыта і непрадузята, але і ва ўзаемасувязі ўсіх бакоў нашага развіцця.

Зноў у пашане пошук ісціны, праўды, а не выгады, зноў у цане смеласць аб'ектыўных даследаванняў, а не кан'юнктурныя пошасці. Павучальны вывад для ўсіх на будучыню: без праўды жыцця, без навуковых ісцін і мастацкіх адкрыццяў няма і не можа быць паўнацэннага, шматграннага духоўнага жыцця, няма і не можа быць па-сапраўднаму дзейснай, баявой ідэалагічнай работы.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# Заканчэнне даклада М. С. ГАРБАЧОВА

Партыя ўпэўнена ў правільнасці такога падыходу, у правільнасці сваёй рэвалюцыйнай ініцыятывы па развіццю публічнасці, дэмакратыі, сацыялістычнага плюралізму думак. Аднак наіўна думаць, быццам з маральнага ачышчэння, абгрунтаванай крытыкі, разрыву з непрыгодным мінулым само сабой, аўтаматычна адразу ж народзіцца ва ўсім абноўленае грамадства. Не, дыялектыка свядомасці і практыкі невымерна больш складаная. Эфектыўнасць ідэалагічнай дзейнасці ў рашаючай ступені залежыць ад канкрэтных палітычных, арганізацыйных, сацыяльна-эканамічных умоў.

Сёння нам удалося абудзіць грамадскую свядомасць, пераадолець стан апатыі і адчужанасці. І пытанне стаіць цяпер так: куды ж пойдзе гэта абуджаная свядомасць, у якім напрамку будзе развівацца грамадская думка?

Ці будзе яна служыць справе перабудовы, пойдзе па шляху нарошчвання канструктыўных, стваральных намаганняў, па шляху працы і адказнасці, па шляху сапраўднага абнаўлення сацыялістычнага грамадства?

Ці пахіснецца перад складанасцю і непрывычнасцю новых задач, паддасца пачуццям і эмоцыям, сарвецца ў знешне яркія пачыннанні, кампанейшчыну таго або іншага толку?

Ці паўздыхае аб жыцці і зноў пачне драмаць, што надзвычай задаволіла б усіх, каму даспадобы часы застою?

Ясна, што шлях прагрэсу можа быць толькі адзін — гэта шлях перабудовы, шлях абнаўлення. Партыя будзе выкарыстоўваць усе магчымасці, каб грамадская свядомасць фарміравалася на аснове развіцця дэмакратызацыі і публічнасці і была накіравана на стваральную работу.

Справа абнаўлення мае патрэбу ў гарантыях, мае патрэбу ў абароне. Такія гарантыі неабходна ствараць, умацоўваць як у паслядоўным правядзенні радыкальнай эканамічнай рэформы, рэформы палітычнай сістэмы, так і ў сферы грамадскай свядомасці, духоўнага, ідэалагічнага жыцця.

Бясспрэчна, нямала сказана ў апошнія гады засмучальнага і нават трагічнага, такога, што можа выклікаць горыч, боль, прыкрасць і нязгоду. Не ведаць, не заўважаць гэтага, вядома, спакайней. Але з такога падыходу не могуць нарадзіцца рэвалюцыйная свядомасць, грамадзянская пазіцыя, мужнасць і высокая адказнасць чалавека, так неабходныя для поспеху перабудовы. Менавіта таму партыя смела пайшла на крытычны перагляд мінулага, аднаўленне гістарычнай праўды, рэабілітацыю тых, хто стаў ахвярай несправядлівых палітычных абвінавачанняў і беззаконнасцей. Гэту работу неабходна прадоўжыць.

Не павінна быць пытанняў, ад адказаў на якія трэба ўхіляцца, не павінна быць сумненняў, ад якіх можна адмахнуцца. Размова ідзе аб нашым партыйным гонары і сумленні, аб інтэлектуальнай годнасці партыі Леніна.

Няпроста і нялёгка прабівацца да ісціны, але партыя, якая знаходзіцца ва ўмовах ідэалагічнага камфорту, якая палічыла, што ісціна ў яе ў руках і яе не трэба здабываць штодзень, а варта толькі дастаць з сейфа, — такая партыя рызыкуе страціць свой духоўны і маральны аўтарытэт, свой рэвалюцыйны характар і здольнасць быць палітычным авангардам грамадства.

Нашай грамадскай свядомасці, савецкаму чалавеку ўласцівы многія выдатныя якасці. Гэта так. І тым не менш сёння мы ставім пытанне аб неабходнасці мэтанакіраванага выхавання ініцыятывы, самастойнасці, вострай цікавасці да новага, патрэбнасці ў ім. Без гэтага нельга ўзяць новыя рубяжы перабудовы. Гэтыя якасці можна выхоўваць, толькі апіраючыся на дэмакратычныя формы жыцця грамадства.

Перабудова вывела на пярэдні край жыцця публічнасць, якая рэалізуецца ў самых розных формах — у рабоце дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, на сходах, мітынгах, навуковых і творчых канферэнцыях, сходах грамадзян. Магутнай трыбунай грамадскай думкі выступаюць сёння сродкі масавай інфармацыі. Яны нямала зрабілі для аднаўлення гістарычнай праўды і справядлівасці, крытыкі недахопаў і хібаў, пашырэння вопыту перабудовы, выпрацоўкі ў людзей умення мысліць і дзейнічаць па-новаму, творча, мэтанакіравана.

Але цяпер трэба ісці далей. Нам неабходна новая якасць партыйнай прэсы, новая якасць яе палітычна-асветніцкай і арганізуючай ролі. Цяпер нашай прэсе, не зніжаючы ўзроўню крытыкі ўсяго таго, што перашкаджае руху па шляху перабудовы, трэба ісці ў глыб працэсаў, аналізаваць складаную дыялектыку, супярэчлівасць станаўлення новага грамадства ва ўсіх сферах яго жыцця. А для гэтага патрэбны і большыя веды, і большая кампетэнтнасць, і большая канструктыўнасць і адказнасць. Гэту задачу прэса можа вырашыць, толькі прыцягваючы шырокія колы грамадства, узніма[illegible] на шчыт вопыт сапраўдны[illegible] рарабаў перабудовы.

Сёння ўжо не трэба пераконваць, што без публічнасці няма абнаўлення, без яе мы не змаглі б за такі кароткі[illegible] мін правесці велізарную ра[illegible], па аналізу прычын негатыўных з'яў, шляхоў іх пераадолення, не змаглі б стварыць у грамадстве новую маральна-палітычную атмасферу, выставіць на пярэдні план ідэі перабудовы.

Публічнасць прадугледжвае плюралізм думак па любых пытаннях унутранай і міжнароднай палітыкі, свабоднае супастаўленне розных пунктаў погляду, дыскусіі. І толькі пры такім падыходзе яна можа выконваць сваю грамадскую ролю, служыць інтарэсам народа, сацыялізму.

Але публічнасць, як і любое праяўленне дэмакратыі, прадугледжвае высокую адказнасць. Публічнасць несумяшчальная з прэтэнзіяй на манаполію поглядаў, з навязваннем адных догм узамен тых, ад якіх мы адмаўляемся, са служэннем групавым інтарэсам і тым больш са скажэннем фактаў і звядзеннем асабістых рахункаў. Крайне антыдэмакратычна пазбаўляць людзей, падвергнутых крытыцы, магчымасці адказаць на яе па сутнасці. Якая ж гэта публічнасць! І ўжо зусім непрымальна, калі дыскусіі, сходы, старонкі друку, экраны тэлебачання выкарыстоўваюцца для сваркі, знявažання і навешвання ярлыкоў.

Разам з тым, таварышы, да гэтага часу маюць месца — і аб гэтым трэба прама сказаць на канферэнцыі — факты заціску, а то і расправы за крытыку. З гэтым мы сутыкаемся і ў партыйных арганізацыях, і ў працоўных калектывах, і ў грамадскіх арганізацыях, і ў апараце кіравання, і ў адносінах да сродкаў масавай інфармацыі. Нярэдка актыўнасць і бескампраміснасць савецкіх людзей у выяўленні канкрэтных недахопаў, іх выступленні супраць руціны і безадказнасці, супраць злоўжыванняў службовых асоб у сяго-таго выклікаюць злосную рэакцыю і процідзеянне. І зноў мы бачым, як яны абрываюць, а то і праследуюць тых, хто ўзнімае голас у абарону праўды. Партыйныя арганізацыі і партыйныя камітэты на ўсіх узроўнях павінны стаць на варце развіцця крытыкі і самакрытыкі, выступаць з прынцыповых пазіцый.

Калі мы гаворым, таварышы, аб выхаванні палітычнай культуры, цывілізаванасці ў чалавечых адносінах, то нашы сродкі масавай інфармацыі могуць адыграць тут велізарную ролю, у тым ліку і сваім прыкладам.

Усё гэта, відаць, неабходна мець на ўвазе пры падрыхтоўцы рэзалюцыі канферэнцыі аб публічнасці.

І яшчэ аб адным ідэалагічным аспекце палітычнай дзейнасці партыі на цяперашнім этапе перабудовы. Цяпер у працэсе аднаўлення ісціны і справядлівасці, адмовы ад усяго, што дэфармавала сацыялістычную ідэалогію і практыку, разбурэння стэрэатыпаў і догм, некаторыя сцвярджаюць, што гэта — нібыта размыванне прынцыпаў, асноў сацыялізму, ачарненне яго гісторыі. З гэтым нельга згадзіцца, таварышы. Нельга катэгарычна! Мы не маем права дапусціць, каб перабудова спатыкнулася аб камяні дагматызму і кансерватызму, аб нечыя забабоны і асабістыя амбіцыі. Гаворка ідзе аб лёсе краіны, аб лёсе сацыялізму. І мы абавязаны растлумачыць вастрыню сітуацыі тым, хто яшчэ не ўсвядоміў яе. У гэтым галоўным для ўсіх нас пытанні кампрамісаў быць не можа.

Хачу з усёй пэўнасцю сказаць тут, на канферэнцыі, што мы і ў далейшым будзем развіваць усе сапраўды сацыялістычныя каштоўнасці, рашуча ліквідоўваць тое, што скажала рэвалюцыйную тэорыю і аблічча сацыялізму.

Бурныя дыскусіі і сутыкненні страсцей выявілі важную акалічнасць — прыемную і натхняючую. Яна з новай сілай, пасля столькіх выпрабаванняў, драматычных сітуацый і трагічных перападаў пацвярджае правільнасць таго гістарычнага выбару, які зрабіў наш народ у 1917 годзе,— выбару на карысць сацыялізму.

Паглядзіце: цяпер кожны можа гаварыць тое, што ён думае і што хоча сказаць. І гэта разнастайнасць думак, меркаванняў, эмоцый знаходзіць выражэнне ў грамадскім жыцці ў небывалых маштабах і ў самых розных формах. І што ж адбылося? Не хітруючы і не прыхарошваючы, мы можам сказаць, што пры ўсёй вастрыні і крытычнасці меркаванняў, якія мы пачулі за гэты час, савецкі народ у ходзе перабудовы яшчэ раз рашуча і магутна прагаласаваў за сацыялізм.

Так, мы адмаўляемся ад усяго таго, што дэфармавала сацыялізм у 30-я гады і што прывяло яго да застою ў 70-я гады. Але мы хочам такога сацыялізму, які быў бы ачышчаны ад наслаенняў і скажэнняў мінулых перыядаў і разам з тым атрымлівае ў спадчыну ўсё лепшае, што народжана творчай думкай заснавальнікаў нашага вучэння, што ўвасоблена ў жыццё працай і намаганнямі народа, што адлюстроўвае яго надзеі і спадзяванні. Мы хочам сацыялізму, які ўбірае ўвесь перадавы вопыт сусветнага развіцця, у поўнай меры апіраецца на дасягненні чалавечага прагрэсу.

Вядома, ва ўсіх дэталях абрысаваць канкрэтнае аблічча будучыні, да якой мы ідзём праз перабудову, сёння немагчыма. Але асноўныя параметры, галоўныя рысы таго, што мы называем якасна новым станам грамадства, абазначыць можна і трэба.

Можна, бо галоўныя напрамкі і тэндэнцыі грамадскіх пераўтварэнняў праявіліся ўжо. Трэба, бо акрамя крытыкі відавочных недахопаў, разумення таго, ад чаго мы абавязаны адмовіцца, такая ж вялікая патрэбнасць і ў канструктыўных, пазітыўных арыенцірах, якія вызначылі б шляхі і сродкі набліжэння практыкі да канчатковых мэт і ідэалаў сацыялізму.

Сацыялізм мы бачым, як лад сапраўднага, рэальнага гуманізму, пры якім чалавек на справе выступае «мерай усіх рэчаў». Усё развіццё грамадства, пачынаючы з яго эканомікі і заканчваючы духоўна-ідэалагічнай сферай, накіравана на задавальненне патрэбнасцей чалавека, на яго ўсебаковае развіццё. Прычым усё гэта робіцца працай, творчасцю, энергіяй саміх людзей.

Сацыялізм мы бачым як лад эфектыўнай і дынамічнай эканомікі, якая апіраецца на лепшыя дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу і забяспечвае найвышэйшую прадукцыйнасць працы; эканомікі, непасрэдна падпарадкаванай задавальненню патрэбнасцей грамадства, якая гібка прыстасоўваецца да іх. Асновай такой эканомікі выступаюць разнастайныя формы грамадскай і асабістай уласнасці, арганізацыі вытворчасці, пры якіх працоўныя рэальна выступаюць як яе гаспадары, забяспечваецца прамая су[illegible] заработку з вынікамі пра[illegible]. Планавае кіраванне эканомікай зыходзіць з арганічнага спалучэння ролі цэнтра пры вырашэнні структурных пы[illegible]ў з шырокай самастойнасцю вытворчых адзінак як таваравытворцаў, якія дзейнічаюць на асновах гаспадарчага разліку і самастойнасці і працуюць на рынак.

Сацыялізм мы бачым як лад сацыяльнай справядлівасці, які спалучае сацыяльныя гарантыі жыццёва важных патрэбнасцей чалавека ў працы, ахове здароўя, адукацыі, жыллі, сацыяльным забеспячэнні з паслядоўным правядзеннем прынцыпу размеркавання па працы, выкараненнем любых форм ураўняльнасці і сацыяльнага паразітызму. Гэта грамадства, у якім вышэй за ўсё цэніцца і дастойна ўзнагароджваюцца матэрыяльна і маральна здольнасці чалавека, яго плённая праца, майстэрства і талент.

Сацыялізм мы бачым як лад высокай культуры і маралі. Ён атрымлівае ў спадчыну і прымнажае лепшыя дасягненні духоўнага развіцця чалавецтва, яго багаты маральны вопыт. Гэта — грамадства паўнакроўнага і насычанага ў матэрыяльных і духоўных адносінах жыцця чалавека працы, якое адхіляе спажывецтва, бездухоўнасць і культурны прымітывізм. У паняцце высокай культуры ўключаюцца і экалагічная культура грамадства, беражлівыя, разумныя адносіны да прыродных умоў жыцця і вытворчай дзейнасці людзей, захаванне і прымнажэнне прыродных багаццяў.

Сацыялізм мы бачым як лад сапраўднага народаўладдзя, пры якім усім працоўным забяспечваецца поўная магчымасць для выражэння сваіх патрэбнасцей і інтарэсаў, удзел у кіраванні грамадскімі працэсамі, пераадольваецца адчужэнне чалавека ад улады. Гэта — грамадства сацыялістычнага самакіравання народа, глыбокага і паслядоўнага дэмакратызму ў кіраванні эканомікай, сацыяльнымі працэсамі, законнасці, адкрытасці і публічнасці.

Сацыялізм мы бачым як лад сапраўднай роўнасці ўсіх нацый і народнасцей, іх сацыяльнага, духоўнага росквіту і ўзаемаўзбагачэння, дзе няма месца любым праяўленням міжнацыянальнай варожасці, нацыяналістычным і шавіністычным забабонам, дзе перамагаюць інтэрнацыяналізм і брацтва народаў.

Нарэшце, сацыялізм мы бачым як лад, прыродзе і інтарэсам якога арганічна ўласцівы імкненне да міру, да ўмацавання супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння з брацкімі сацыялістычнымі краінамі, наладжвання нармальных, цывілізаваных адносін паміж усімі народамі і дзяржавамі на аснове дэмакратычных прынцыпаў раўнапраўя, неўмяшання ў справы адзін аднаго, прызнання суверэннага права народаў самім вызначаць свой лёс.

Менавіта такое дэмакратычнае, гуманнае аблічча сацыялізму мы маем на ўвазе, гаворачы аб якасна новым стане нашага грамадства як важнай ступені ў руху да камунізму.

Наступныя гады вызначаць будучыню нашай краіны, лёс савецкага ладу. Для нас гэта будучыня стане такой, якой мы яе створым. Мы самі — ніхто за нас або замест нас. Так стаіць пытанне, і на яго мы абавязаны даць прамы адказ. Без ухіленняў і недагаворанасцей. Без спроб ухіліцца ад сумленнага супастаўлення жаданага і сапраўднага, слоў і спраў, суб'ектыўных уяўленняў і аб'ектыўных рэальнасцей.

Савецкі народ хоча яснай перспектывы. Дэмакратыі паўнакроўнай і безагаворачнай. Законнасці без выключэнняў. Публічнасці ва ўсім — у вялікім і малым. Брацтва і таварыскасці ў адносінах. Павагі да працавітасці і таленту, вернага служэння справе і грамадскаму абавязку. Нам патрэбны не сацыяльныя ўтопіі, а дакладныя арыенціры, аб'ектыўныя крытэрыі сацыялістычнасці на ўсіх этапах перамен, каб лепш былі бачны тэндэнцыі грамадскага развіцця, каб не захліснулі, як не раз здаралася ў мінулым, цякучка і паказуха.

Мы перакананы ў жыццёвасці марксісцка-ленінскага вучэння, якое навукова абгрунтавала магчымасць пабудовы грамадства сацыяльнай справядлівасці, цывілізацыі свабодных і раўнапраўных людзей. Гэтым мы і кіруемся ў ходзе рэвалюцыйнай перабудовы. Так мы і будзем дзейнічаць на яе новым, важнейшым этапе, які адкрывае наша партканферэнцыя.

Таварышы! Завяршаючы даклад, хацеў бы ў агульных рысах сказаць аб той дыскусіі, якая папярэднічала канферэнцыі і якая асабліва актывізавалася пасля апублікавання Тэзісаў ЦК.

Даўно не было ў нас у партыі, грамадстве дыскусіі такой шырокай, гарачай і плённай, з жывой думкай, вялікай колькасцю прапаноў, вострым падчас сутыкненнем думак. У цэнтры яе былі па сутнасці галоўныя пытанні перабудовы, дэмакратызацыі грамадскага і ўнутрыпартыйнага жыцця. Размова ішла практычна аб адным: як гэта лепш зрабіць.

Можна прама сказаць, што прапановы і ідэі, з якімі Цэнтральны Камітэт выйшаў на канферэнцыю, народжаны калектыўнай думкай партыі, усяго народа.

Нашы мэты — больш дэмакратыі, больш сацыялізму, лепшае жыццё працоўнага чалавека, веліч і дабрабыт краіны.

